*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
27
САКАВІКА
1992 г.
№ 13 (3631)
ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.
КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)

## НАСТАЛЬГІЯ ПА СССР

**Леанід ЛЫЧ: «На тэрыторыі Беларусі толькі беларуская нацыя, а не прадстаўнікі рускай, казахскай, кіргізскай ці іншых нацыянальнасцей, з'яўляецца дзяржаўнай нацыяй. Ужо, значыцца, паміж першай і астатнімі нельга правесці знака роўнасці».**

СТАРОНКІ 5, 12

## НЕЧАКАНАЕ Ў ЗНАЁМЫМ ГОЛАСЕ

**Заір АЗГУР пра лірыку і пераклады Рыгора БАРАДУЛІНА.**

СТАРОНКІ 8—9

## БЛУКАННІ

**Кароткія апавяданні Яна СКРЫГАНА.**

СТАРОНКІ 8—9

## ПАЧАТАК РАЗМОВЫ, ДАЛЁКАЙ АД КАНЦА...



**Гутарка з галоўным рэжысёрам Беларускага тэатра лялек Аляксеем ЛЯЛЯЎСКІМ.**

СТАРОНКІ 10—11

## АДКУЛЬ ПАЙШЛА БЕЛАРУСКАЯ МОВА

**Іван ЛАСКОЎ: «Час ужо паставіць кропкі над «і»: старажытнарускай мовы ніколі не існавала, ні пісьмовай, ні гутарковай. Былі гаворкі палянаў, драўлянаў, крывічоў, драгавічоў і г. д. А тое, што нам засталося ад Кіеўскай Русі на паперы, напісана на царкоўнаславянскай, мове Бібліі».**

СТАРОНКІ 14—15

## «РУБОН!»



**Нататкі з канферэнцыі беларусаў Даўгаўпілса.**

СТАРОНКА 16

**Мо гэта і ёсць шчасце...**

Фота А. КЛЕШЧУКА.

# Кола Дзён

**19 САКАВІКА** Пад націскам абставін Вярхоўны Савет перайшоў, нарэшце, ад слоў да справы і прыняў пастанову аб стварэнні Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Раней было прынята рашэнне адклікаць усіх беларусаў-вайскоўцаў, якія праходзяць тэрміновую службу ў Закаўказзі і Малдове, дзе набіраюць сілу ўзброеныя канфлікты. Абмеркаваны ў першым чытанні законапраекты аб абароне, аб статусе вайскоўцаў і іх сем'яў, аб дзяржаўнай мяжы, аб пагранвойску і інш.
Колькасць уласных узброеных сіл Беларусі, мяркуецца, складзе на першым этапе каля ста тысяч чалавек. (Потым магчыма іх паступовае скарачэнне з улікам нейтральнага статуса дзяржавы).

**20 САКАВІКА** Шлях ад рашэнняў да іх рэалізацыі, вядома няблізкі. Варта нагадаць, што на лютаўскай сустрэчы ў Мінску Беларусь падпісала пагадненне, згодна з якім у бліжэйшыя два гады войскі на яе тэрыторыі будуць уваходзіць у Аб'яднаныя ўзброеныя сілы СНД. Цяпер у Кіеве стварэнне такіх сіл юрыдычна аформілася. Больш за ўсіх быў задаволены галоўнакамандуючы маршал Я. Шапашнікаў. Цяпер у яго ёсць і намеснікі: камандавацъ стратэгічнымі сіламі будзе Герой Савецкага Саюза генерал арміі Ю. Максімаў, войскамі агульнага прызначэння — генерал-палкоўнік У. Сямёнаў. Якая роля ў сітуацыі, калі войска на Беларусі фактычна падпарадкоўваецца Маскве, адводзіцца Мінабароны рэспублікі, можна толькі гадаць.

**21 САКАВІКА** Генерал-палкоўнік П. Чавус, які выконвае зараз абавязкі міністра абароны Рэспублікі Беларусь, на наступны дзень пасля сустрэчы ў Кіеве кіраўнікоў дзяржаў Садружнасці паспяшыў даць прэс-канферэнцыю ў Мінску. Яго ацэнка ў цэлым была асцярожна аптымістычнай. Але генерал-палкоўнік падкрэсліў, што многае засталося няясным — напрыклад, пытанне аб фінансаванні ўзброеных сіл СНД. Дагэтуль невядома, апрача ўсяго, якія часці ўвойдуць у стратэгічныя сілы, а якія — у склад Узброеных Сіл Беларусі...

**22 САКАВІКА** Нядзеля, што выпала на першы дзень пасля вясновага раўнадзенства, была ці не першай сёлета, калі не праводзіліся шматлюдныя мітынгі, акцыі пратэсту і наогул буйныя палітычныя мерапрыемствы. Адзначаўся толькі Міжнародны дзень інвалідаў, з якім былі звязаны розныя дабрачынныя мерапрыемствы.
Асноўная маса гараджан пачала рабочы сезон на сваіх «фазэндах».

**23 САКАВІКА** Завяршыўся працяглы візіт міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь П. Краўчанкі ў Злучаныя Штаты Амерыкі. Ён быў прыняты прэзідэнтам ЗША Дж. Бушам. На перамовах з дзяржсакратаром Дж. Бейкерам, іншымі прадстаўнікамі амерыканскай адміністрацыі абмяркоўваліся пытанні далейшага развіцця дыпламатычных адносін, магчымасці двухбаковага супрацоўніцтва, а таксама дапамогі Беларусі гуманітарнага характару. Гэтая тэма закранадася і ў гутарках міністра з грамадска-палітычнымі дзеячамі Амерыкі. Акрамя таго, П. Краўчанка сустракаўся ў Нью-Йорку з новым Генеральным сакратаром ААН Б. Галі.
Тым часам у Мінск з рабочым візітам прыбыла група экспертаў Камісіі Еўрапейскіх Супольніцтваў на чале з загадчыкам аддзела тэхнічнай дапамогі СНД панам Хаарам. Ён сустрэўся з намеснікам Старшыні СМ Беларусі М. Дземчуком, які з'яўляецца Нацыянальным каардынатарам тэхнічнага супрацоўніцтва Беларусі з Камісіяй ЕС. Выглядае на тое, што развіццё супрацоўніцтва з Еўропай дае і непрадбачаныя пабочныя вынікі. У прыватнасці—увядзенне ўсё новых экзатычных пасад.

**24 САКАВІКА** Пасля выхадных (а дэпутаты вырашылі адпачываць не менш як тры дні на тыдзень) аднавіла работу сесія Вярхоўнага Савета Беларусі. Пачалася яна гэтым разам з рэзкіх папрокаў некаторых дэпутатаў на адрас Старшыні, які, мяўляў, не праканcультаваўся з парламентам напярэдадні паездкі ў Кіеў. Трохі супакоіўшыся, дэпутаты выбралі першага намесніка Старшыні ВС. Ім стаў В. Кузняцоў, старшыня Савецкага райсавета Мінска.
А на сустрэчы ў Хельсінкі краін-удзельніц Нарады па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе было прынята рашэнне склікаць у Мінску міжнародную канферэнцыю па ўрэгуляванні канфлікта ў Нагорным Карабаху.

**25 САКАВІКА** Беларусь адзначала Дзень Волі — 74-я ўгодкі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

# Дзень Волі

**Вечарына, прысвечаная 74-м угодкам абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, адбылася ў Мінску, у Доме літаратара.**

Адразу трэба сказаць, што невялікая зала Дома літаратара проста не магла умясціць усіх жадаючых прыняць удзел ва ўрачыстасці. Дзень 25 сакавіка нарэшце святкаваўся ў рэспубліцы адкрыта. Але афіцыйным святам гэтая дата пакуль яшчэ не прызнана. Магчыма, таму і не знайшлося іншага, больш прасторнага памяшкання для вечарыны.

Але гэта не адбілася, дый не магло адбіцца на атмасферы ўзнёсласці, якая панавала ў зале. Не было тут афіцыйнай пампезнасці. Не было ганаровага прэзідыума за казённым сталом на сцэне. Адзінай аздобай яе была выява Пагоні.

Патрыятычныя спевы выконваліся проста ў зале, і гледачы станавіліся эмацыянальнымі саўдзельнікамі ўрачыстасці. (І толькі гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...» прагучаў у выкананні вайсковага ансамбля са сцэны). На пачатку вечарыны прагучала песня на верш Купалы «А хто там ідзе?» Скончылася яна агульным спяваннем «Пагоні» Багдановіча. Аўтар жа песні «З крыві беларускай...» і музыкі да яе С. Новік-Пяюн прысутнічаў у зале. Пасля выканання песні ўсе, хто быў на вечарыне, авацыямі віталі паэта.

З уступным словам на вечарыне выступіў В. Быкаў. Гісторыя, сказаў ён, настаўніца строгая... І яна не даруе забыцця яе ўрокаў, забыцця тых, хто змагаўся і аддаў жыццё за незалежнасць Бацькаўшчыны. Пра ўрокі гісторыі, пра неабходнасць будаваць мост з мінулага ў будучыню гаварыў З. Пазняк.

На вечарыне выступілі літаратуразнаўца А. Мальдзіс, падпалкоўнік С. Суднік (ад імя беларускіх вайскоўцаў, якія служаць за межамі рэспублікі), студэнт БДУ А. Глушко...

А перад пачаткам вечарыны ў Доме літаратара адбылася імпрэза-адкрыццё выставы мастака А. Пушкіна.

**НАШ КАР.**

# СУСТРЭЧА Ў КІЕВЕ: ПРАВАЛ ЦІ ПОСПЕХ?

Некалі кожны чарговы партыйны з'езд або пленум ЦК КПСС загадзя аб'яўляўся гістарычным. Пазней спадзяванні на лепшае звязваліся з чарговым з'ездам народных дэпутатаў або сесій Вярхоўнага Савета. Цяпер мы, як быццам, паразумнелі, і наіўнасць тых спадзяванняў відавочная, бадай, для ўсіх. Але падобна на тое, што месца з'ездаў і пленумаў у масавай свядомасці пачынаюць займаць сустрэчы кіраўнікоў незалежных дзяржаў Садружнасці, удзельнікі якіх выступаюць у ролі своеасаблівага «палітбюро».

Падабенства, канечне, чыста знешняе. Сёння няма й гаворкі пра колішняе «маналітнае адзінства» вышэйшага арэапага. Кожны з кіраўнікоў адстойвае, як умее, інтарэсы сваёй дзяржавы. Зняць хоць бы частку супярэчнасцей паміж гэтымі інтарэсамі за адзін рабочы дзень проста немагчыма. І несур'ёзна гучаць каментарыі накшталт таго, што чарговая сустрэча была «правальнай», альбо «мела поспех». Трэба ўдакладняць — чый поспех? Што менавіта праваліласа?

Як слушна сказаў Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевіч на прэс-канферэнцыі ў Мінску, «чакаць, што сустрэчы самі па сабе дадуць паляпшэнне сітуацыі, нельга». Але для чаго, узнікае пытанне, трэба збірацца? Ці ёсць патрэба ў самой СНД? І што канкрэтна дала, напрыклад, апошняя сустрэча ў Кіеве?

На думку С. Шушкевіча, Садружнасць узнікла не толькі таму, што развалі̆ўся Саюз. Усе краіны СНД апынуліся ў сітуацыі ўсеагульнага эканамічнага спаду. У выніку — разрыў гаспадарчых сувязей, у якім не зацікаўлены ніхто. Перад незалежнымі дзяржавамі паўстала аб'ектыўная задача— стварыць прававы падмурак узаемадзеяння дзяржаў ва ўмовах непазбежнага пераходу да рыначнай эканомікі.

Аднак пераход адбываецца вельмі цяжка, звязаны са шматлікімі праблемамі. Напрыклад, вызваленне цэн на энерганосьбіты — крок неабходны. Але пры існуючай манаполіі вытворцаў нафты гэты крок для Беларусі азначае катастрофу. Зіму, паводле слоў С. Шушкевіча, мы з Божай ласкі перажылі, паколькі яна была цёплая. Але сітуацыя з палівам вельмі цяжкая, і што будзе наступнай зімой — сёння невядома.

Другі прыклад. Эмісія грошай адбываецца ў Расіі. Яна сёння не адмаўляецца пастаўляць нам рублі (як гэта і прадугледжана пагадненнем аб агульнай эканамічнай прасторы), але робіць гэта з затрымкай, што ставіць рэспубліку ў невыгоднае становішча...

Выйсце старшыні парламента бачыцца толькі ў адным: разам з усімі іншымі дзяржавамі шукаць сумесныя рашэнні, у якіх зацікаўлена і Беларусь.

Але С. Шушкевіч вымушаны быў прызнаць на прэс-канферэнцыі, што якраз галоўныя пытанні — аб правапераемстве на ўласнасць былога Саюза, аб раздзеле пазык, крэдытаў, банкаўскіх актываў і г. д. — у Кіеве вырашаны не былі. Расія фактычна заблакіравала іх разгляд, спасылаючыся на тое, што гэтыя пытанні... вельмі складаныя.

І ўсё ж, Старшыня Вярхоўнага Савета настойваў на аптымістычнай ацэнцы вынікаў сустрэчы. (У адрозненне, скажам, ад Прэзідэнта Украіны Л. Краўчука. (У яе «актыў» ён занёс рашэнне вайсковых пытанняў — у прыватнасці, фактычнае прыняцце вайсковай дактрыны СНД, рашэнне аб сумесным уладкаванні мяжы з Прыбалтыйскай краінамі СНД на падставе двухбаковых пагадненняў. Станоўча ацаніў С. Шушкевіч і рашэнне стварыць сілы «хуткага рэагавання» Садружнасці (накшталт «блакітных касак» ААН), якія павінны фарміравацца з прафесійных вайскоўцаў, але на добраахвотнай падставе. Пры гэтым галоўнай умовай пасылкі гэтых сіл у рэгіён канфлікту з'яўляецца просьба краін-удзельніц канфлікту з абодвух бакоў.

Усе рашэнні ў Кіеве, пажартаваў С. Шушкевіч, прымаліся па прынцыпе «кансенсус мінус адзін» — г. зн. тая або іншая дзяржава ўстрымлівалася ад падпісання якога-небудзь з дакументаў. Але гэта, як лёгка зразумець, зноў-такі закладвае свайго роду міну запаволенага дзеяння пад прынятыя пагадненні.

Не было ў Кіеве вырашана пытанне аб 1-м канале былога ЦТ. Умовы і прынцыпы вяшчання, прапанаваныя кіраўніцтвам кампаніі «Астанкіна», большасць дзяржаў палічыла непрымальнымі. На думку С. Шушкевіча, куды больш карысна было б, відаць, атрымліваць інфармацыю па каналах Сі-эн-эн, чым тэндэнцыйныя навіны і каментарыі з Масквы.

У ходзе прэс-канферэнцыі, заўважу, разгарэлася міні-дыскусія паміж журналістамі і Старшынёй Вярхоўнага Савета наконт якасці інфармацыі, яе аператыўнасці і аб'ектыўнасці. Шмат прэтэнзій было выказана да журналістаў. Але і кіраўнік парламента вымушаны быў прызнаць, што многае тут залежыць ад стаўлення да прэсы афіцыйных органаў.

**Віталь ТАРАС.**

# ПРАЗ СПРЭЧКІ ДА ІСЦІНЫ

У мінулы чацвер адбыўся сход пісьменнікаў Беларусі — трэці за апошні час. Два ранейшыя не змаглі вырашыць усіх набалелых пытанняў жыцця пісьменніцкай арганізацыі. Ды ўсё ж пакрысе справа рухалася. На ранейшых сходах было выбрана праўленне Літаратурнага фонду (на першым яго пасяджэнні дырэктарам стаў М. Хамякоў), рэвізійная камісія (старшынёй яе абраны Г. Пашкоў). А вось абраць старшыню праўлення Літфонду пісьменнікі так і не змаглі. Большасць галасоў набралі А. Жалязоўскі і Н. Пашкевіч. Ды перш, чым перайсці на сходзе да выбараў, удзельнікі яго былі вымушаны вярнуцца да пытання аб назве фонду. Парашылі назваць яго Літаратурным фондам Беларусі.

Перад галасаваннем А. Жалязоўскі зняў сваю кандыдатуру. У такой сітуацыі ўдзельнікі сходу адкрытым галасаваннем выбралі старшынёй праўлення Літаратурнага фонду Н. Пашкевіча.

Справаздачу перад калегамі трымаў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі В. Зуёнак. Ён расказаў пра асноўныя мерапрыемствы, якія на працягу года праводзіліся творчым саюзам (юбілеі, пасяджэнні, семінары, канферэнцыі і г. д.).

Пра работу Літаратурнага фонду гаварыў яго дырэктар М. Хамякоў, а пра работу рэвізійнай камісіі Літфонду — яе старшыня Г. Пашкоў.

Літаратары выказалі сваё стаўленне да Канфедэрацыі творчых саюзаў Беларусі, створанай нядаўна, вырашыўшы ў яе не ўваходзіць.

Паколькі колішняга Саюза пісьменнікаў СССР няма, узнікла патрэба ў білетах сябра саюза ўласнага ўзору. Эскізы, распрацаваныя мастакамі, будуць прапанаваны для абмеркавання радзе СП Беларусі. Яна таксама вырашыць, каго дэлегаваць у Маскву на апошні саюзны з'езд: выбрана было 42 дэлегаты, а па цяперашняй норме прадстаўніцтва трэба 21 чалавек.

У сувязі з інфляцыяй вырашана павялічыць членскія ўзносы Саюза пісьменнікаў у дзесяць разоў. Раней было разгледжана пытанне аб павелічэнні літфондаўскіх членскіх узносаў.

Вострыя спрэчкі ўзніклі пасля заўваг Б. Сачанкі аб камерцыйнай дзейнасці творчага саюза і Літфонду, рабоце Дома літаратара. Выступілі А. Махнач, дырэктар Дома літаратара В. Лужкоўскі, В. Дашкевіч, А. Пісьмянкоў, В. Хомчанка, С. Законнікаў, А. Жалязоўскі.

**Наш кар.**

**ДУМКА ЧЫТАЧА**

# «Бо слова было ад Бога...»

Пішу аб нашай мове, дакладней, аб некаторых праблемах «беларусізацыі» дый беларушчыны ўвогуле.

Не навіной кожнаму, што беларускія паэты і празаікі ўжо даўно друкуюць свае кніжкі пераважна для сябе, што слова беларускае, пачутае ў краме ці ў аўтобусе, прымушае люд адшукаць вачыма таго «дзівака», што чалавеча, прыдбаўшы сабе кватэру ў горадзе, перш за ўсё імкнецца пазбавіцца сваёй «сялянщчыны».

Гэты сумны пералік можна доўжыць да бясконцасці, але гаворыць ён толькі аб тым, што беларускасць усёй Беларусі трымаецца намаганнямі невялічкай купкі людзей, якая ладзіць «каляды», «купаллі», «вечарыны» і г. д., фактычна застаючыся сапраўднай нацменшасцю сярод роднага народа.

Свядомых беларусаў стала больш? Так. Крыху. Не магу казаць за ўсіх, аднак мая беларускасць, як і большасці маіх сяброў, далася не хатнім выхаваннем, не ўрокамі беларускай мовы і літаратуры, і не веданнем таго, што Статут 1588 г. быў напісаны па-беларуску. Усведамленне сябе беларусам — сапраўднае зрушэнне, з'ява невытлумачальная і непадуладная разумоваму аналізу. Магчыма, гэта выключэнне. І я быў бы рады за таго, хто адчуў сябе беларусам на мітынгу, але такіх, шчыра кажучы, я не ведаю. Камусьці мае словы могуць падацца занадта змрочнымі. Калі ласка, выйдзіце на вуліцу, прыслухайцеся і прыглядзьцеся да таго, што навокал. Хіба не адчуваеце сябе пясчынкай, няхай адухоўленай і ледзьве не шляхетнай, але пясчынкай? Лепшым прыкладам з'яўляецца Беларускі дзяржаўны універсітэт. Калі ў 1989 г. мне пашчасціла патрапіць на гістфак (здавалася б, дзе ж яшчэ квітнець беларускасці), дык заўважыў, што з маіх аднакурснікаў мову ўжывала 3 чалавекі. Гады «Адраджэння» «значна» змянілі становішча, зараз па курсе размаўляе 4 чалавекі, вагаюцца 2—3. Але больш палохае іншае. Калі раней «беларушчына» з'яўлялася апазіцыйнай партыйна-ўрадавай структуры (я не лічу тых, хто за добры сацпаёк выконваў пэўныя сацыяльныя заказы) і амаль не заўважалася народам, то зараз, калі ўрад быццам бы дае «зялёны колер» нацыянальнаму развіццю, выяўляецца, што апазіцыйнасць на ўзроўні абыякавасці існуе ўжо паміж народам і носьбітамі яго культуры. Становішча парадаксальнае і страшэннае! Урад дэкларуе, але амаль нічога не робіць. Народ, у большасці сваёй, рабіць нешта ў справе свайго духоўнага развіцця не жадае. І мы вынішчаемся, як адметны этнас з багацейшай культурай і гісторыяй, вынішчаемся пад прыгожай шыльдай «урадавай беларусізацыі».

Закон аб мовах? Ды, прачытаўшы яго зараз, можна бясконца смяяцца з гэтых небарак-беларусаў і з іх недарэчнага суверэнітэту. Замест мэтанакіраванай цвёрдай палітыкі па выратаванні беларускае культуры гучаць словы «дзяржаўных дзядзькоў» аб тым, што не трэба спяшацца, што нешта робіцца і што не ўсё гэтак дрэнна... Колькі воплескаў з тае нагоды, што на Беларусі за апошні год адчыніліся некалькі беларускіх садкоў і школак! А дзе ж лічбы ўсіх школ і садкоў, адчыненых за гэты час? Не ўпэўнены, што суадносіны будуць суцяшальнымі. Але, можа, аўтары «пераможных» артыкулаў выключэнне з правілаў? Паслухаем тады мужа адказнага і пэўна ж зацікаўленага ў «беларусізацыі» — Пятра Іванавіча Брыгадзіна, прарэктара БДУ па вучэбнай рабоце («Сілком у рай». «Чырвоная змена», 27.01—2.02).

**«— А якім уяўляецца вам «беларусізаваны» універсітэт?**

**— Перш за ўсё — установай высокаінтэлектуальных людзей. Я бачу гэта нават па-за сувяззю з мовай...»**

Вось як! Аказваецца, што ў самай буйной навучальнай і адукацыйнай установе Беларусі на першым плане яшчэ стаіць праблема высокаінтэлектуальнасці. А ўжо мова.. Далей у інтэрв'ю ідуць спасылкі на быццам бы наяўныя поспехі беларусізацыі ва універсітэце. Як не ўразіць той факт, што «...было створана Таварыства беларускай мовы, якое сёння налічвае каля тысячы членаў». Але дзе ж тая шчырасць сп. Брыгадзіна, як у пытанні з «высокаінтэлектуальнасцю»? Чаму не сказаць прама, што ТБМ ва універсітэце — мёртванароджанае дзіця, і што тысяча яго членаў не больш чым лічба? І хіба не аб гэтым гаворыць той жа ТБМаўскі аб'яўны стэнд у галоўным корпусе, які за апошнія месяцы не зведаў ніводнага напаміну аб жыцці сваёй арганізацыі. Так, нельга не пагадзіцца з тым, што беларускі рух існуе ў сценах універсітэта перш за ўсё дзякуючы намаганням нешматлікіх студэнтаў і выкладчыкаў, а не клопату афіцыйных структур. І тут зноў не адмовіш у шчырасці сп. прарэктару, які зазначае, што «рух назіраўся» (не насустрач, не быў падтрыманы — назіраўся) і што той даволі кволы парастак беларускасці існуе «дзякуючы намаганням энтузіястаў». Сумна і балюча чытаць такое, як сумна і балюча быць беларусам у Беларускім дзяржаўным універсітэце.

Трэба зразумець, што рух энтузіястаў не бясконцы. Ён павінен быць дзейна падтрыманы дзяржавай. І першыя неадкладныя захады яе павінны кранудь дзіцячыя садкі, бо пасаджаныя там зернейкі дадуць самыя трывалыя ўзыходы.

**Выхаванне беларускасцю ў садку не патрабуе ні тэрміналогіі, ні складаных падручнікаў, на што спасылаюцца прыхільнікі павольнай беларусізацыі (хаця я і не ведаю, якія цяжкасці можа выклікаць тэрміналогія на гістфаку, напрыклад). Да шасці-сямі год дзіця імкнецца ўвабраць у сябе ўвесь навакольны свет і робіць першыя крокі па яго ўразуменні. Таму і мова, пачутая і блізкая з маленства, не будзе ў далейшым нечым абсалютна чужым, невядомым і палохаючым, якой яна зараз з'яўляецца ўжо для 9—14-гадовага падлетка, перавыхаваць якога ў беларуса вельмі і вельмі цяжка. І тады ланцужок: беларускі дзіцячы садок — беларуская школа — беларускі універсітэт будзе натуральным і не запатрабуе ад чалавека цяжкай унутранай ломкі, пазбавіць варожасці да роднае мовы, якая існуе пры сістэме: рускамоўны садок — рускамоўная школа — беларускі (?) універсітэт. І садочкі беларускія павінны існаваць незалежна ад колькасці бацькоўскіх заяў (хадзіў па кватэрах і ведаю, як цяжка вырваць гэтую заяву ў «пашпартных» беларусаў), а ў залежнасці ад працэнтных суадносін паміж этнічнымі групамі ў той ці іншай мясцовасці, горадзе і г. д. Той жа прынцып неабходны ў адносінах і да школьнай адукацыі. І хай тады паспрабуюць узняць енк тыя, хто ўбачыць гвалт у тым, што беларуса вучаць беларускай мове і культуры!**

А як жа наконт нацыянальных меншасцяў? Калі ласка, ніхто і ніколі не забароніць рускім, палякам, яўрэям ды іншым этнічным групоўкам вучыць дзяцей сваёй мове ці то ў дзіцячым садку, ці то ў школе (і аб гэтым таксама павінен быць дзяржаўны клопат), але каб побач з нацыянальнай мовай вывучалася мова **дзяржаўная** — беларуская мова. І цяжка ўжо тут прыдумаць нейкія непаразуменні. Патрабуецца толькі адно — неадкладныя рашучыя дзеянні ўрада ў гэтым напрамку, бо з кожным выпускам сённяшняя сістэма выхавання адукацыі выпускае ў свет новае пакаленне «чужынцаў». Марудзіць нельга! Тым больш, што ўзнімаецца «інтэрнацыянальная» хваля, якая і ў сённяшнім амаль пустым па дзейснасці Законе аб мовах бачыць пагрозу. Чаго вартая толькі адна заява новаўтворанай Асацыяцыі грамадскіх нацыянальных арганізацый («Собрались однажды еврей, поляк, немец, полешук и...», «Знамя юности», 1.02) аб тым, што Закон аб мовах «противоречит международным нормам и по сути является дискриминационным по отношению к др., населяющим Беларусь этносам».

**Па-першае, хацелася б адзначыць тое, што на Беларусі пражывае толькі адзін этнас — беларускі. А тых палякаў, яўрэяў, армян, немцаў, рускіх, якія жывуць на беларускай зямлі, пры ўсёй павазе да гэтых людзей называць этнасамі — проста палітычнае дый навуковае блюзнерства. Гэтыя групы людзей — не больш не менш як часткі сваіх этнасаў, прадстаўнікі іх. Па-другое, мне проста цікава, чаго б дамагаліся сп. Левін, Малевіч, Майснэр ды іншыя, напрыклад, у Амерыцы? Каб родная мова кожнага з іх стала дзяржаўнай побач з ангельскай? Спадарства прагне бачыць «Беларусь такой, какой она была во времена ставшего прообразом современной западной цивилизации Великого княжества Литовского». Але, шаноўныя, не на чатырох мовах «цісnуў» кнігі Скарына і не на чатырох мовах убачыў свет галоўны закон Княства — Статут!**

**А тым кобрынскім завадчанам, што аднагалосна «запісаліся ў яцвягі», хачу проста сказаць, што этнас не ўтвараецца па закліку лідэраў таго ці іншага руху, і галасаванне, хай сабе і аднагалоснае, ніколі не заменіць цвярозага навуковага доследу.**

«Ну што ты прычапіўся да гэтае мовы?» — могуць сказаць мне. Маўляў, у наш час галоўная прыкмета этнасу — самасвядомасць яго прадстаўнікоў. А калі працэс знікнення мовы пайшоў, дык гэта цалкам натуральна.

Так, самасвядомасць рэч надзвычай важная, і ў пэўных выпадках яна, сапраўды, адыгрывае большую ролю, чым мова. Але параўноўваць самасвядомасць мексіканца, які размаўляе па-іспанску, і «самасвядомасць» беларуса, які выракся роднай мовы, тое ж самае, што зраўняць рэальна існуючую рэч і яе ледзьве прыкметны цень. Такая беларуская «самасвядомасць» — з'ява хісткая і чыста побытавая, якую лёгка раструшчыць ці то польскае «шмаццё», ці то праваслаўная царква, ці яшчэ што-небудзь. Дык чаго ж нам чакаць? Мы ўжо і так на крок ад бездані забыцця сваёй культуры.

Хай, у рэшце рэшт, дзяржава, што завецца Беларуссю, рашуча абароніць і адродзіць сваю беларускую «самасць»!

Бо слова было ад Бога.
А слова на Беларусі —
беларускае слова.
І так было спрадвек.
І хай жа так будзе!

**Уладзімір ЛОБАЧ,**
**студэнт гістфака БДУ.**
г. Наваполацк.

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# Мая вёсачка Клівы

У нашай палескай вёсачцы Глівы, па-цяперашняму Клівы, калісьці стаяў маёнтак пана Глівы. Калі я была маленькай, то часта з сяброўкамі бегала туды гуляць. Маёнтак быў напалову ўжо разбураны, застаўся толькі адзін з гаспадарчых будынкаў, дзе жыла сям'я ляснічага.

У суседняй вёсцы Загалле пан пабудаваў царкву. Мая бабка Лукер'я расказвала, што хутка пасля рэвалюцыі мясцовы актыў камсамольцаў хадзіў па хатах і запрашаў сялян на так званую маёўку. Калі ўсе сабраліся, камсамольскі важак кінуў кліч: «Супраць цемры і невуцтва пойдзем на штурм царквы! Вера, Бог, царква і званы — усё старыя забабоны!»

Плакалі бабулькі, адварочвалі твары маладзіцы, калі падбухтораная моладзь кінулася выносіць з царквы і паліць на вогнішчы іконы. Веруючыя вяскоўцы прасілі аддаць іконы ім. Пад рогат сябрукоў важак пачаў кідаць іконы людзям. У маёй бабулькі таксама з'явілася ў хаце ікона з царквы, вялікая, на ўвесь кут. З яе пазіраў барадаты мужчына з белым німбам над галавою. У адной руцэ ён трымаў кнігу, а другую падняў, злажыўшы разам тры пальцы.

**Калі я хадзіла ўжо ў шосты клас, пачала прымаць удзел у вясковых святах. Вельмі любіла Купалле. Дарослыя і дзеці збіраліся ля ракі Віць, што працякае паўз нашу вёсачку, вадзілі карагоды, спявалі, запальвалі вогнішчы. Было вельмі цікава. А на Новы год па хатах хадзілі Дзед Мароз са Снягурачкай. Загадчыцай клуба тады працавала Алена Краўчанка. Гэта была гаманлівая і вясёлая маладзіца, якая сама добра спявала. Яна і стварыла гурток народнай песні. Жанчыны выступалі з канцэртамі. Быў у нас і драматычны гурток. Вельмі мне запомнілася п'еса пра купальскіх русалак. З яе я даведалася, што на Купалле ранішняя раса гаючая, надае сілы чалавеку, а сабраныя ў гэты дзень травы — здароўе. Што паляць вогнішча, каб ачышчацца ад злых чараў і хвароб. Самадзейныя акцёры распавядалі нам павер'і. Як даведацца, хто ў сяле вядзьмарка? Яна ў купальскую ноч не зможа стрымацца, каб не папрасіць у каго-небудзь з суседзяў запалак. Каб абараніць сябе ад вядзьмаркі, сяляне клалі ў шчыліны сцен хлявоў і хат крапіву, вешалі яе над ложкамі. А над ганкам прымацоўвалі серп.**

Моладзь з нашай вёскі не надта рвалася ў горад. Колькі я вучылася ў школе, памятаю, шумелі ў нас вяселлі. Хлопцы вярталіся ў вёску з войска, а хто ў горадзе вучыўся — таксама, набыўшы патрэбную сялу спецыяльнасць, прыязджаў працаваць у саўгас. Вёска наша была гаманлівая ад спеваў моладзі і смеху дзяцей. У клубе заўсёды кіно, танцы, добрая бібліятэка, у якой і мне пасля школы ўдалося папрацаваць.

Што датычыць насельнікаў Кліваў, то вельмі мне запомнілася бабка Алеся і дзед Алесь Студзенкі. Заўсёды, калі я з сяброўкай ішла са школы міма іх хаты, бабка запрашала нас да сябе. Частавала смачным хлебным квасам. У агародзе ў іх вэндзіліся сала і кумпякі, і дзед з бабай частавалі нас духмянай вяндлінай. У хаце Студзенкаў вісела вышытая карціна, а на ёй выява: прыгожы юнак змагаецца з тыграм.

— Гэта Мцыры! — тлумачыў дзед. — Памятаеце, у Лермантава ёсць такая паэма?

— Гэта зусім не Мцыры, — пярэчыла яму бабка, — я яшчэ ў дзявоцтве вышывала гэтую карціну. Гэта злая дзяўчына запатрабавала ў знак кахання прынесці ёй шкуру тыгра...

Далей жыла сям'я Мікалая і Марылі Казлоўскіх. Цётка Марыля вельмі прыгожая, у яе вялікая тоўстая каса, нібы вянок вакол галавы. Яна працавала касірам у клубе, а дзядзька Мікалай — кінамеханікам. Цётка — вельмі руплівая гаспадыня. У яе заўсёды шмат варэння, марынаваных грыбоў. У Казлоўскіх — шасцёра дзяцей. Цяпер усе ўжо дарослыя, маюць свае сем'і. У хаце шмат вышытых сурвэтак, абрусоў. Мікалай захапляўся садаводствам і пчалярствам. У іх цудоўны сад, дзе над квеценню яблынь, груш, вішань мрояцца пчолкі.

Сям'я Баранавых — Соня і Мікалай, ды яшчэ шасцёра іх дзяцей. Самыя працавітыя і дружныя людзі. Ніколі не чутно было, каб яны сварыліся. Дзеці заўсёды з маці: у полі, дома, дапамагаюць па хатніх справах...

**І яшчэ шмат добрых і шчырых людзей жыло ў нашай вёсачцы. Саўгас «Хойніцкі» налічваў пяць вёсак: Казялужы, Клівы, Загалле, Паташня, Загальская Слабада. На пяць вёсак мелася тры клубы, Палац культуры, дзве дыскатэчныя залы, тры бібліятэкі, дзіцячы садок, пяць лазняў, два паштовыя аддзяленні, два фельчарска-акушэрскія пункты, пяць магазінаў, адна пачатковая і дзве сярэднія школы.**

Але з тае пары, як на нашай зямлі здарылася чарнобыльская катастрофа, сціхлі ў вёсках галасы. У 1988 годзе памерла ад лейкеміі мая трынаццацігадовая сястра. Сталі хварэць іншыя дзеці. Пакасіла катастрофа старых. Неяк раптоўна памерлі з дзяцінства знаёмыя і блізкія мне людзі, бабулькі-казачніцы, што збіраліся на лаўках надвячоркамі. Не памятаю, каб некалі ў нас так часта паміралі людзі.

Праз некаторы час пасля катастрофы прыязджалі ў вёску медыкі, замяралі радыяцыю. Прапанавалі вяскоўцам змяніць месца жыхарства. Некаторыя маладыя сем'і і выехалі адразу. А потым ішлі ад іх лісты: «Сумую... Тут і квецень не такая, як у нас. І сонейка не з таго боку ў акенца свеціць...»

Зжыліся ж людзі ў вёсцы, як адзіная сям'я. І балюча адлучацца, раз'ядноўвацца. Магілы тут бацькоў і дзядоў. «А памятаеце, як дажынкі гулялі? Дырэктар саўгаса з жонкай у клуб прыйшоў. Танцавалі разам. А яна такая вясёлая! А спявае як»; «А як у Хойнікі на раённы фестываль ездзілі! У нас былі такія прыгожыя спадніцы: чырвоныя з белым у клетачку, а на кофтах — зялёныя і залацістыя каласкі» — гэта чую я размову дзвюх таварак, якія даўно ўжо не жывуць у нашай вёсцы, а прыехалі пабачыцца з бацькамі, што нікуды не хочуць ехаць. І маладзіц гэтых цягне да родных мясцін, сэрца рвецца, душа прагне пабачыць родны кут.

Некалі мне мая бабка гаварыла:

— Праходзіў у даўнія часы праз нашу вёску прарок і сказаў: «На гэтым месцы, што б ні здарылася, заўсёды будзе ладна ды хораша. Гэта добрае месца, на якім стаіць ваша вёска. Ніякая бяда яе не спасцігне!»

Памыліўся той прарок...

**Лідзія ЛУКІЯНАВА.**

**Небывалыя эканамічныя цяжкасці, з якімі сутыкнуліся ўсе без выключэння краіны колішняга СССР, іх палітычная нестабільнасць, вострыя міжнацыянальныя канфлікты нараджаюць у многіх людзей сумненні адносна лагічнасці яго дэмантажу і распаду на шэраг незалежных суверэнных дзяржаў. Такія сумненні ўмела раздзьмуваюцца ў сродках масавай інфармацыі, да чаго актыўна падключаюцца высокапастаўленыя асобы былых агульнасаюзных дзяржаўных, партыйных і грамадска-палітычных структур. Сярод гэтых змагароў знаходзяцца і такія, што гатовы нават з дапамогаю агню і мяча адраджаць Савецкі Саюз у яго былых тэрытарыяльных межах і з дзяржаўнымі парадкамі дагарбачоўскага часу. Усё часцей чуем па радыё і назіраем па тэлебачанні, як пад уплывам розных сіл і многія простыя людзі пачынаюць шкадаваць, што не быў падпісаны надрукаваны ў снежні 1991 года ў газетах праект «Дагавора аб Саюзе Суверэнных Дзяржаў», бо гэта, на іх думку, напэўна ж дапамогло б пазбегнуць таго страшэннага гора, якое цёмнымі хмарамі навісла над намі. Ужо не раз у падтрымку гэтага «нешчаслівага» дакумента выказаўся і яго асноўны аўтар першы і апошні прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў. Асабліва нагартаваліся страсці ў пярэдадзень гадавіны правядзення Усесаюзнага рэферэндуму адносна будучага лёсу СССР, хаця, як мы ведаем, гэтае мерапрыемства было арганізавана не лепшым чынам і вынікам яго нельга давяраць. Упэўнены, калі не палепшыцца жыццё, лік абаронцаў праекта Дагавора будзе расці, і многія сапраўды будуць бачыць велізарную трагедыю ў тым, што ён не быў падпісаны. Дык няўжо ж і на самай справе той дзяржаўны акт забяспечыў бы ўсім народам, у тым ліку і беларускаму, рэальны нацыянальны суверэнітэт і прыстойнае жыццё!**

**ЧАС І МЫ**

# Настальгія па СССР

**Леанід ЛЫЧ**

На працягу апошніх шасці месяцаў мінулага года палітычныя дзеячы краіны тры разы звярталіся да народаў былога Савецкага Саюза з праграмным дакументам-праектам «Дагавора аб Саюзе Суверэнных Дзяржаў». І кожны раз у праектах знаходзіліся артыкулы, якія ў чымсьці не задавальнялі каго-небудзь з бакоў, што меркавалі ўступіць у абноўлены Саюз. Такое, напэўна, здарылася б і з трэцім — пры непадпісанні ў Белавежскай пушчы Пагаднення аб Садружнасці Незалежных Дзяржаў — праектам Дагавора, бо ён меў слабыя месцы, утрымліваў палажэнні, якія наўрад ці забяспечылі б рэальную суверэннасць кожнаму суб'екту ствараемай шматнацыянальнай канфедэратыўнай дзяржавы.

Мне могуць запярэчыць: адкуль такія сумненні адносна магчымасці дасягнення і забеспячэння рэспублікамі суверэннасці ў будучым, калі яны ўжо і на той час былі суверэннымі, што засведчана ў загалоўку самога праекта «Дагавора аб Саюзе Суверэнных Дзяржаў»? Такія пярэчанні з вялікай лёгкасцю адхіляюцца тым, што дзяржавы, якія павінны былі падпісаць дагавор, усё ж на практыцы не з'яўляліся суверэннымі. Не магу прыгадаць, што прынцыпова важнае для лёсу беларускай нацыі магла прыняць за апошні перад гэтым год яе дзяржава, не папытаўшы дазволу ў Цэнтра? Усё, нават і дробязі, трэба было ўзгадняць з ім. А ў жыцці рэдка бывае, каб тое, што выгадна рэспублікам, цалкам адпавядала саюзным інтарэсам. Вось і даводзілася раз-пораз уступаць ім такой рахманай і памяркоўнай рэспубліцы, як Беларусь. А гэта ўжо не суверэннасць, а штосьці процілеглае ёй.

Калі сапраўдную рэальную суверэннасць прыняць за сто працэнтаў, дык на момант апублікавання праекта Дагавора ўсе рэспублікі, за выключэннем мо толькі Расійскай Федэрацыі, такой суверэннасцю валодалі не больш як у памеры пяці-дзесяці працэнтаў. Для ўсіх суб'ектаў Дагавора пра суверэннасць рэальную, а не ўяўную можна было гаварыць толькі ў будучым часе, таму і сам дакумент лепш было б назваць так: «Дагавор аб Саюзе будучых суверэнных дзяржаў». У выпадку нязгоды шэрагу дзяржаўных дзеячаў з такой назвай, што вельмі верагодна, калі зыходзіць з іх неаднаразовых публічных заяў, дык трэба было б да таго, як падпісаць Дагавор, ажыццявіць комплекс кардынальных публічных мерапрыемстваў у эканоміцы, палітыцы і сацыяльна-культурным жыцці саюзных рэспублік — з тым, каб яны не фармальна, а на самай справе сталі суверэннымі дзяржавамі. Усякія спасылкі на тое, што надзвычай цяжкія, непрадказальныя падзеі ў краіне вымушалі да хутчэйшага падпісання Дагавора, не мелі пад сабой сур'ёзнага грунту, бо, не сакрэт, пры навуковым, разумным падыходзе нават архіскладаныя праблемы маглі вырашацца самімі рэспублікамі ў абыход Цэнтра на аснове заключэння паміж сабой раўнапраўных дагавораў. А тое, што апошнія тады яшчэ не паспелі як след выявіць сваё пазітыўнае значэнне, дык гэта толькі таму, што былі і захоўваліся моцныя, уплывовыя сілы ў Цэнтра, якія небеспаспяхова зводзілі на нішто стваральныя намаганні рэспублік. Пры даволі прыкметным уплыве такіх сіл складаліся ўсе тры праекты «Дагавора аб Саюзе Суверэнных Дзяржаў», што не магло не адбіцца і на яго змесце.

Датычыць гэта і першага раздзела дакумента «Асноўныя прынцыпы». У ім ёсць такія словы: «Дзяржавы, якія ўтвараюць Саюз, захоўваюць за сабой права на самастойнае вырашэнне ўсіх пытанняў свайго развіцця, гарантуючы роўныя палітычныя правы і магчымасці сацыяльна-эканамічнага і культурнага прагрэсу ўсім народам, што пражываюць на іх тэрыторыі». На першы погляд, уражанні ад такіх слоў атрымліваеш вельмі светлыя і прыемныя, бо каму ж не хочацца быць роўным, жыць у грамадстве, пабудаваным на гуманістычных прынцыпах. І такая роўнасць сапраўды магла б гарантавацца, калі б сказанае датычыла толькі Саюза ўвогуле безадносна да яго дзяржаў. Аднак прыведзенае палажэнне рэгулюе міжнацыянальныя працэсы ў рамках кожнай паасобна і ўсіх разам дзяржаў і тут ужо патрэбны новыя падыходы. І перш за ўсё неабходна цвёрда разумець і стала зыходзіць з такой пасылкі: што тая ці іншая дзяржава ў складзе канфедэрацыі можа і павінна зрабіць для гарантавання палітычных правоў, сацыяльна-эканамічнага і культурнага прагрэсу свайго карэннага насельніцтва, назву якога яна носіць, таго ёй наўрад ці ўдасца — дый такое і не практыкуецца ў цывілізаваным свеце — для прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей. Не сакрэт, што на тэрыторыі Беларусі толькі беларуская нацыя, а не прадстаўнікі рускай, казахскай, кіргізскай ці іншых нацыянальнасцей, з'яўляецца дзяржаўнай нацыяй. Ужо, значыцца, паміж першай і астатнімі нельга правесці знака роўнасці. Зразумела, што такімі ж няроўнымі ў палітычных адносінах былі б і беларусы, што пражываюць на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі, Казахстана, Кіргізіі ці іншай дзяржавы абноўленага Саюза. Сапраўдным паўнапраўным гаспадаром можна быць толькі ў сваёй уласнай хаце. Прытрымліваючыся літары прыведзенага вышэй палажэння з праекта Дагавора, можна прыйсці да высновы, што і прадстаўнікі некарэнных нацыянальнасцей фармальна маюць права на дзяржаўна-палітычную роўнасць з асноўнай нацыяй, выступаць за стварэнне і для сябе на яе гістарычнай тэрыторыі розных нацыянальна-дзяржаўных фарміраванняў, што ў абавязковым парадку прывядзе да міжнацыянальных канфліктаў. Такія фарміраванні лагічнымі былі б толькі ў выпадку, калі б размова ішла пра нацыянальныя групы, што здавён-даўна кампактна жывуць на тэрыторыі асноўнага этнасу і да таго ж нідзе ў іншым месцы планеты Зямля ў іх няма сваёй уласнай дзяржавы. У межах былога Савецкага Саюза ў большасці выпадкаў тэрытарыяльна-кампактныя нацыянальныя групы ўтвараліся штучна, у выніку свядомага накіравання Цэнтрам рабочай сілы, спецыялістаў у нацыянальныя рэгіёны з мэтай іх гаспадарчага асваення, што, аднак, не заўсёды вяло да іх сапраўднага эканамічнага і сацыяльнага росквіту. Паколькі сюды пасылаліся пераважна прадстаўнікі рускай, украінскай і беларускай нацыянальнасцей, тут пад уплывам першай утварыліся даволі значныя па сваёй колькасці масівы рускамоўнага насельніцтва.

Пры такіх акалічнасцях крайне неабходна сачыць за тым, каб інтарэсы апошняга не прыйшлі ў супярэчнасць з запатрабаваннямі нацыянальна-дзяржаўнага развіцця карэнных этнасаў.

Вельмі праблематычным з'яўляецца зафіксаванае ў «Асноўных прынцыпах» —не выключана, што менавіта з чыста прапагандысцкіх мэт, — палажэнне аб гарантыі роўных магчымасцей сацыяльна-эканамічнага развіцця ўсім народам, што пражываюць на тэрыторыі той ці іншай дзяржавы. Зразумела, было б крайне несправядліва і антыгуманна, як гэта практыкуецца ў некаторых капіталістычных краінах, калі б за выпуск аднойі той жа колькасці раўнацэннай па якасці прадукцыі рабочаму дзяржаўнай нацыі плацілі больш, чым астатнім. Не сумняваюся, што ўрад Рэспублікі Беларусь, самі беларусы нават пры няверагодна цяжкіх умовах жыцця не пойдуць на такое ўніжэнне ў аплаце працы прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей. Але ўсё ж можа ўзнікнуць такое неспрыяльнае становішча — а яно апошнімі гадамі і сапраўды вельмі часта бывае непрадказальна цяжкім і складаным, — калі неабходна будзе сацыяльна-эканамічныя інтарэсы беларускай нацыі паставіць вышэй, чым усіх тых, хто жыве на яе тэрыторыі. Возьмем, да прыкладу, такую небяспечную сацыяльную з'яву, як беспрацоўе. Яно можа набыць такія пагражальныя памеры, што аграмадныя масы людзей вымушаны будуць у пошуках працы кідаць Беларусь і пераязджаць у іншыя рэгіёны былога Саюза. У такім выпадку проста вялікі грэх быў бы, каб дзяржава ў першую чаргу не паклапацілася пра беларусаў, абыякава назірала, як яны пакідаюць зямлю продкаў, бо стыхійны ці арганізаваны выезд з Беларусі з прычыны беспрацоўя рускіх, украінцаў, казахаў, прадстаўнікоў нацыянальнасцей Закаўказзя, Сярэдняй Азіі ці іншых нацыянальных рэгіёнаў Саюза нікольні не сувымерны паводле сваіх вынікаў з тым, калі ў масавых памерах рушаць у гэтыя рэгіёны па той жа прычыне беларусы. Бо ў апошнім выпадку ставіцца пад пагрозу ўжо само існаванне беларускай нацыі на яе этнічнай тэрыторыі. Да таго ж ад масавага беспрацоўя на Беларусі некаторыя з прадстаўнікоў яе некарэннага насельніцтва могуць ратавацца не такім ужо цяжкім і нязручным спосабам; проста ўзяць ды выехаць у месцапражыванне іх нацый, сваіх далёкіх продкаў. У беларусаў жа, што жывуць на тэрыторыі роднай Бацькаўшчыны, не існуе такой магчымасці.



Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

**Наўрад ці разумным было б не браць пад увагу нацыянальны фактар і пры правядзенні такога важнага сацыяльна-эканамічнага мерапрыемства, як прыватызацыя прадпрыемстваў прамысловасці, транспарту і гандлю, жылля. Так здарылася, што ў сябе ў рэспубліцы беларусы зусім не самая багатая катэгорыя насельніцтва. Таму пры да канца не прадуманай прыватызацыі нацыянальнае багацце Беларусі можа быць размеркавана далёка не прапарцыянальна ўдзельнай вазе карэннага і некарэннага насельніцтва ў яго агульным складзе, і мы вернемся да таго, што ў нас было да Кастрычніцкай рэвалюцыі, калі прамысловасць і транспарт знаходзіліся ў руках рускага капітала, рамяство, гандаль — яўрэйскага, а значныя масівы найлепшых земляў належалі польскім панам.**

**Не разумею, як на Беларусі можна было б правесці ў жыццё сфармуляваны ў праекце Дагавора прынцып роўных магчымасцей для ўсіх у сферы культуры. Тэрыторыя Беларусі ёсць адзінае ў свеце месца, дзе толькі і можа існаваць, развівацца і квітнець беларуская нацыянальная культура, што абавязвае дзяржаўныя ўлады ў першую чаргу ствараць менавіта для яе ўсе неабходныя ўмовы. Тое, што дзяржава павінна рабіць для карэннага насельніцтва: ствараць і развіваць паўсюдна нацыянальную сістэму народнай адукацыі, нацыянальныя тэатры і кіно, нацыянальныя сродкі масавай інфармацыі і г. д., яна з прычыны адсутнасці патрэбных матэрыяльных і фінансавых сродкаў, прафесійных кадраў ці нязначнай велічыні той ці іншай нацыянальнай групы зусім неабавязана такое ж ладзіць для прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей. У лепшых выпадках іх нацыянальныя запатрабаванні дзяржавай могуць задавальняцца толькі ў самых элементарных маштабах. Ні рускі, ні казах, ні татарын, ні ўзбек не будзе ў нацыянальна-культурным плане так забяспечаны на Беларусі, як у сябе дома ў Расійскай Федэрацыі, Казахстане, Татарстане і Узбекістане. Такія ж істотныя абмежаванні ў задавальненні культурных патрэб зведваюць і будуць абавязкова зведваць беларусы, што апынуліся ў пералічаных, а таксама ў іншых рэспубліках.**

Такі салідны праграмны дакумент, як праект «Дагавора аб Саюзе Суверэнных Дзяржаў», значна прайграваў ад уключэння па нейкіх матывах у свае раздзелы гэтакіх яўна нерэальных палажэнняў.

Прыярытэт любой нацыянальнай культуры на этнічнай тэрыторыі пражывання яе носьбітаў—зусім заканамерная з'ява ў сусветнай цывілізацыі. І толькі рэальна суверэнная дзяржава без асаблівых цяжкасцей вырашае даную праблему, надзейна ахоўвае сваю нацыянальную культуру і мову ад небяспечнай для іх развіцця асіміляцыі, якой, на жаль, не ўдалося пазбавіцца абсалютнай большасці народаў былога СССР з-за грубых парушэнняў іх нацыянальнай суверэннасці.

Няма гарантыі, што з гэтай негатыўнай, небяспечнай для народаў з'явай не давялося б стала сутыкацца і ў новым Саюзе Суверэнных Дзяржаў, тым больш, што ад іх патрабавалася перадаць Цэнтру нямала з таго, у чым якраз заключаецца сутнасць нацыянальнай незалежнасці. Усё ў тым жа першым раздзеле праекта Дагавора мы знаходзім месца, дзе гаворыцца аб развіцці агульнасаюзнага рынку, але ні словам не ўпамінаюцца нацыянальныя рынкі, нібыта апошнія адыгрываюць другарадную ролю ў жыцці суверэнных дзяржаў. Сусветная ж

(Працяг на стар. 12).

**ВІНШУЕМ!**

# Івану АРАБЕЙКУ — 50



26 сакавіка паэту Івану Арабейку споўнілася 50 гадоў. «ЛіМ» шчыра віншуе Івана Сяргеевіча з поўднем веку і зычыць яму доўгіх год жыцця, новых творчых поспехаў.

**КНІГАПІС**




Анталогія беларускага апавядання. На асецінскай мове. Цхінвалі, «Ірыстон», 1990.

**Так, у выхадных дадзеных гэтай кнігі значыцца 1990 год. У гэтым годзе яна і павінна была выйсці з друку. Павінна была... Ды ўсе мы добра ведаем, што такое сённяшні Цхінвалі, якая сітуацыя ў Паўднёвай Асеціі. Набіралася «Анталогія беларускага апавядання» пад разрывы снарадаў і ракет, посвіст куль. Ёй жыццё давалі людзі, якія галадалі і не ведалі, ці дажывуць да заўтрашняга дня, каб прадоўжыць сваю працу... Таму і падпісана была кніга ў друк толькі 15 сакавіка 1991 года. А пасля — зноў затрымкі з-за адсутнасці паперы (як у нас), з-за адсутнасці электраэнергіі. Нават і аддрукаваную анталогію давялося вывозіць пад абстрэлам.**

**І ўсё ж кніга прыйшла да чытача. І тым большая ўдзячнасць наша ўсім, хто садзейнічаў выхаду яе ў свет — наборшчыкам, выдаўцам. Складальнікі «Анталогіі беларускага апавядання» — М. Гроднеў і А. Пухаеў (ён, як вядома, з'яўляецца свайго роду пастпрэдам Беларусі ў Паўднёвай Асеціі, шмат перакладае беларускіх аўтараў). Уступны артыкул напісаў С. Андраюк. Над перакладамі працаваў і сам А. Пухаеў, і іншыя вядомыя паўднёва-асецінскія пісьменнікі.**

**У кнігу ўвайшлі лепшыя апавяданні Я. Скрыгана, Я. Брыля, А. Асіпенкі, І. Сіняўскага, В. Хомчанкі, А. Карпюка, Ар. Марціновіча, М. Ракітнага, І. Шамякіна, В. Быкава, І. Навуменкі, М. Гроднева, В. Дайліды, В. Тараса, П. Місько, І. Пташнікава, В. Адамчыка, А. Рыбака, І. Чыгрынава, М. Кусянкова, В. Блакіта, А. Шабаліна, В. Іпатавай, У. Паўлава, А. Кудраўца, Б. Сачанкі, Я. Сіпакова, А. Шлега, В. Мысліўца, В. Коўтун, Г. Далідовіча, В. Гігевіча, А. Жука, У. Рубанава, І. Зуб, У. Арлова, У. Ягоўдзіка, А. Глобуса.**

# Непрадказальны дыялог

Ірына ЖАРНАСЕК — Галіна ТЫЧКА

**Галіна ТЫЧКА.** — Ведаеш, Ірына, мне здаецца, што як бы мы сёння ні назвалі нашую сучаснасць, а ў гісторыі яна застанецца як час метамарфозаў. Ці ж гэта не дзіва: колішнія адданыя ленінцы робяцца самымі зацятымі выкрывальнікамі сваёй былой «роднай партыі», некаторыя з «глыбокіх інтэрнацыяналістаў» — ужо шчырэйшыя служкі ідэі нацыянальнага адраджэння, затое іншыя з адраджэнцаў спавядаюцца... у сваёй прыналежнасці да агентуры КДБ. Магчыма, што як у першым, так і ў другім выпадку навідавоку сімптомы адной і той жа хваробы—жадання ўтрымацца на вяршыні хвалі любой цаной, нават цаной Герастратавага подзвігу. Дык, можа, не ўсё яшчэ згублена? Ад славалюбства да самалюбства — адзін крок, а там — рукой падаць да так неабходнае нам чалавечае годнасці.

**Ірына ЖАРНАСЕК.** — Ну, што тут скажаш... Мітусні ды валтузні і праўда зашмат. Усё вакол мяняецца ці не штодня: талоны, купоны, законы. І сумна, калі людзі гэтак жа на хаду, не перапрэгшы, як кажуць, свайго каня, імкнуцца змяніць на сваёй жыццёвай павозцы набыты груз. А куды ж ты дзенешся ад таго, што было?

І таму, можа, з падвойнай удзячнасцю думаеш цяпер пра тых, хто быў самім сабой заўсёды. Ведаеш, калі я пасапраўднаму палюбіла і зразумела пісьменніка Васіля Быкава? Не тады, калі ў школе праходзілі «Альпійскую баладу», а трохі пазней, калі мне, тады бібліятэкарцы, было загадана асобным актам з таямнічым шрыфтам спісаць «У акопах Сталінграда» Някрасава, а «Яго батальён» нашага Быкава зняць з бібліятэчнага стэлажа. Як кажуць, не было б шчасця... Так што жыло яно, сапраўднае, і ў нядаўняй нашай задусе. Як для мяне, дык былі і памагалі жыць Быкаў, Караткевіч, Брыль, Ларыса Геніюш... Былі, ёсць, будуць. А ўсе гэтыя шматфарбныя метамарфозы... сплывуць.

**Г. Т.** — І ўсё ж я, на жаль, не падзяляю твайго аптымізму. Хоць да згаданых табой імёнаў магла б дадаць яшчэ, і нямала. Ды прыкладу, З. Пазняк, А. Вярцінскі, У. Конан, А. Разанаў... Калі на тое пайшло, дык нават у распусным Садоме знайшлася сям'я праведнікаў... Здаецца, летась у «ЛіМе» было надрукавана апавяданне В. Карамазава «Маладзічок дэмакратыі», дзе пісьменнік вельмі дакладна вызначыў асноўную хваробу нашага грамадства: страту інстынкта маральнасці. Прыстойнасць павінна існаваць на ўзроўні падсвядомасці і імгненна спрацоўваць у патрэбную хвіліну, як інстынкт самазахавання, а ў нас яна не спрацоўвае. Нярэдка і ў самых лепшых з нас. Да гэтага часу не магу прыйсці ў сябе ад сенсацыйнай публікацыі «Огонька» (1992, № 2). У трохмільённай Літве пад нумарам 29896 агентам КДБ значыўся... адзін з былых лідэраў «Саюдзіса», старшыня парламенцкай камісіі незалежнай Літвы Віргіліус Чапайціс! Колькі ж такіх двуаблічных Янусаў было (ёсць) у дзесяцімільённай Беларусі? Можа, больш 300 тысяч? Можа, й менш... Ва ўсякім разе, відаць, тыя, хто публічна выспавядаўся, не ўваходзілі паводле сваёй значнасці ў першую дзесятку...

**І. Ж.** — Ты што, толькі цяпер гэтага спужалася? Ты ж супрацоўніца «ЛіМа»! Няўжо ніколі раней не адчувала нябачных вушэй і вачэй? Можа, каля вас працавалі вышэйшага класа прафесіяналы. Ды над кожным друкаваным органам яны віселі, тыя вочы і вушы, я ўжо не кажу пра «ЛіМ». А ці вісяць цяпер? Хочацца, вядома, спадзявацца, што трапілі пад скарачэнне штатаў. Колькі было тых сексотаў і хто са знаёмых ды сяброў быў сярод іх — лепей пра гэта не думаць. Сама адшліфаваная сістэма ўжо не надта і дзівіць. А вось калі падумаеш пра асобнага чалавека, які некалі пайшоў на гэта — сачыць за тымі, хто побач... Чаму пайшоў? Няўжо дзеля таго, каб, як казаў адзін дзівак, «людзям лягчэй жылося»? Вельмі хочацца спадзявацца, што многія з іх прайшлі праз пакуты Рыбака з аповесці Быкава «Сотнікаў». Калі тыя пакуты палілі душу, калі тапелец хапаўся за саломінку і шукаў выйсця з безвыходнага становішча, тады можна і зразумець жаданне цяпер спавядацца. Толькі ўсё ж, відаць, спавядацца трэба Богу.

**Г. Т.** — Спавядацца трэба Богу, гэта праўда. Але ж метамарфозы праяўляюцца і ў такім далікатным пытанні, як рэлігійнае. Здаецца, што з павальнага атэізму наш люд гэтак жа масава рынуўся да Бога. Згадайма памятную яшчэ з дзяцінства радыёперадачу «Для веруючых і няверуючых». Які быў выкрывальны пафас, колькі вогненных стрэлаў сарказму абрыньвалася на галовы цемрашалаў-царкоўнікаў! А сёння... І шыльда тая ж самая, і рэдакцыя істотных змен не панесла, а замест... зараз ён амаль як на службе Ватыканскага радыё! Альбо кінь вокам на нашыя паэтычныя здабыткі — ды ў кожнай падборцы праз слупок сустрэнеш слова Бог, напісанае, дарэчы, з вялікай літары. Але нават вялікая літара не можа схаваць таго, што пакуль у душах аўтараў замест асэнсаванай веры ў Хрыста найчасцей пануе зачараванасць «настоем паганскіх свят агменяў і багоў» (паводле выслоўя С. Сокалава-Воюша).

Змену палітычных арыентацый часткова можна зразумець, часткова — апраўдаць, а рэлігійных? Не маю на ўвазе шчырае вяртанне ў лона хрысціянства, кажу пра павярхоўнае малпаванне паводзін сапраўдных вернікаў. Рэлігія — гэта нешта глыбока індывідуальнае, інтымнае, калі хочаш, а тут — як масавая культура: адразу ўсё і для ўсіх. Як чарговая кампанія з той толькі розніцай, што нікога кіямі не гоняць — самі бягуць.

**І. Ж.** — Адзін знаёмы вернік неяк прызнаўся, што яму цяжка ў сваёй хаце, калі дома сям'я, стаць на калені перад абразамі і памаліцца. Быццам напаказ, кажа, робіш, быццам дэманструеш нешта такое таемнае. Тады ён ідзе ў сад, глядзіць на неба і моліцца, бо з Богам можа гаварыць толькі шчыра. У нас жа цяпер такая вось шчырасць не вельмі ў пашане. Што ж тычыцца літаратуры, дык, відаць, ты не будзеш адмаўляць, што духоўна-рэлігійная тэма ў нас зусім не распрацавана. Вось давай успомнім творы, у якіх хаця б былі святары — як асобы, як людзі са сваімі перакананнямі, пошукамі, памылкамі. Нешта мне хуценька згадваецца «Ветер рвёт паутину» Герчыка.

**Г. Т.** — «Чужая бацькаўшчына» В. Адамчыка, «Чорны замак Альшанскі» У. Караткевіча. А больш, відаць, не прыпомню. Хіба што адна з ранніх аповесцей В. Іпатавай з антырэлігійнай накіраванасцю. Заходняя Беларусь дала нашай літаратуры больш паэтаў, чым празаікаў, калі б наадварот, верагодна было б у нас і больш герояў-святароў.

**І. Ж.** — Гэтая тэма настолькі складаная, настолькі далікатная, што не варта хапацца за яе, як у свой час хапаліся за тэмы калектывізацыі, індустрыялізацыі, пакінутых вёсак. Мы ж пераважна кіруемся тым, што забароненых тэм няма. Вось і замільгала слова «Бог» на літаратурных старонках. Многія з аўтараў, відаць, проста не ведаюць другога прыказання: «Не ўспамінай імя Божае надарэмна».

**Г. Т.** — Можаш лічыць гэта за камплімент, аднак мушу зазначыць, што ў тваім творчым і грамадскім жыцці я заўважаю зайздросную паслядоўнасць. Маю на ўвазе чынны ўдзел разам з а. У. Пятрайцісам у выданні газеты «Голас душы». (Шкада, што яна выходзіць такім малым накладам і даступная толькі абмежаванаму колу чытачоў. Як на маю думку, дык гэта адно з найбольш цікавых выданняў, якіх даволі шмат з'явілася ў апошнія гады). А ўвогуле, як нарадзілася сама ідэя такога нязвыклага супрацоўніцтва журналісткі са святаром?

**І. Ж.** — Баюся, што нашаму «Голасу душы» не выжыць у шалёнай віхуры базару, калі на першы план выйшла «купі-прадай-абмяняй». Да таго ж, каб жыло гэткае выданне, трэба каб не два чалавекі захварэлі гэтай ідэяй, а хаця б трошкі болей. А наконт нязвыклага супрацоўніцтва... Ці такое яно ўжо і нязвыклае — як для нармальнага ўкладу жыцця? Успомнім хаця б, колькі творчых людзей было сярод аднадумцаў і сяброў Аляксандра Меня. Ну, хіба магла я не адгукнуцца на ідэю выдання каталіцкай газеты на беларускай мове? Усе мы добра ведаем, як было вынішчана наша роднае слова з касцёла, як выштурхнула яго суседняе, польскае. Што ж цяпер? Ці шмат карысці з таго, калі мы будзем і надалей адно перакідвацца куслівымі стрэламі на старонках друку з аматарамі «пальшчызны»? Трэба ж яшчэ і рабіць, што можаш, на што здольны. А час выставіць свае адзнакі, у тым ліку і за тое, што мы стварылі. Пакуль што я не лічу, што час, які я адарвала для «Голаса душы» ад творчасці, сям'і, сяброў, патрачаны дарма.

**Г. Т.** — Але сёння хацелася б пагаварыць не толькі пра тваю працу журналіста, а і пра твае пісьменніцкія набыткі. Кажучы пра паслядоўнасць, я згадваю не толькі твае раннія апавяданні, сабраныя ў кнігу «Ліст да сына», дзе ўжо тады прысутнічала тэма хрысціянскага гуманізму, але і апошнія па часе, да прыкладу, «Мона Літа», аповесць, якая прамаўляе да чалавечае спагады і міласэрнасці. Між тым для многіх з нашых чытачоў гуманізм уседаравання, бескарыснай любові да бліжняга пакуль што застаецца таямніцай за сямю замкамі.

**ДЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ**

# ...КАБ З ВЫРАЮ ВЯРНУЛАСЯ ДУША

**Колькі месяцаў назад «Універсітэцкае» выдавецтва выпусціла кнігу «Каласы роднай мовы», у якой былі сабраны вершаваныя творы беларускіх паэтаў пра родную мову, а таксама вершы паэтаў іншых рэспублік і суседняй Польшчы, беларускага замежжа. А толькі што ў «Мастацкай літаратуры» выйшаў укладзены Уладзімірам Паўлавым, зборнік «Матчына слова», дзе пад адной вокладкай сабраны апавяданні, публіцыстычныя выступленні, афіцыйныя дакументы ў абарону беларускай мовы.**

**У прадмове да зборніка старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Ніл Гілевіч піша: «Такой анталогіі, як гэта, мабыць, няма нідзе ў свеце... Чаму? — спытаецеце з недаверам. Хіба ў літаратуры іншых народаў не пісаліся вершы, апавяданні, эсэ і артыкулы пра родную мову — ці дзеля яе ўслаўлення, ці ў яе абарону? Хіба паэты і пісьменнікі іншых краін не выказвалі сваёй пашаны і любасці, свайго замілавання і захаплення родным словам — яго чароўным хараством і яго магічнай сілай? Хіба ім не прыходзілася заступацца за яго, адстойваць яго аўтарытэт і годнасць, бараніць — і ад незычліўцаў-чужакоў, і ад сваіх зняверцаў-адступнікаў — яго Богам дадзеныя правы?.. Бясспрэчна, выказвалі, бясспрэчна, прыходзілася. І, вядома ж, ёсць у многіх народаў анталагічныя зборнікі твораў, прысвечаныя роднай мове. Але такога, як гэты, паўтараю, — няма. Таму што ні ў аднае мовы на свеце няма такога праклятага лёсу, як у нашай».**

**Сапраўды, хіба знойдзеш на планеце іншы вялікі народ, у якога была б такая багатая і даўняя культура і які б, на жаль, вымушаны часта, у розныя перыяды пачуваць сябе ці не чужаком ва ўласным доме? Таму і цяжка сказаць, «чаго больш знойдзе чытач у гэтай кнізе: болю і пратэсту, ці журбы і скаргаў, ці замілавання і радасці? Вымераць гэта цяжка, бо ў большасці выпадкаў немагчыма размежаваць гэтыя пачуцці. Яны прамаўляюць да нас, зліўшыся ў адно цэлае — у тое, што і прымусіла паэта або пісьменніка ўзяцца за пяро, што і прадыктавала яму незаменныя словы».**

**Так, у кнізе гэтай зніταваны між сабой радасць і боль, захапленне і пратэст, — у залежнасці ад таго, якія моманты прыгадваюць аўтары. Ды пра што б яны ні гаварылі — нязменна ў радках прысутнічае, што беларуская мова — адна з прыгажэйшых, багацейшых на зямлі, а ў тым, што яе занядбалі, віна і гістарычных абставін і пэўная віна самога народа нашага, вельмі ж ужо нейкага сарамлівага, ціхмянага, калі справа тычыцца абароны свайго нацыянальнага, кроўнага, адзінага.**

**Да месца прыведзены вядомыя словы Адама Міцкевіча, поўныя высокай ацэнкі нашай мовы, выказванні Фёдара Дастаеўскага, знакамітае Скарынава: «...і людзі, дзе нарадзіліся і ўскормлены ў Бога верачы, да таго месца вялікую ласку маюць» (выказваннямі вялікага першадрукара кніга адкрываецца); славутая «Прадмова» Ф. Багушэвіча да яго «Дудні беларускай». артыкул Цётні «Шануйце роднае слова!», словы-наказ С. Палуяна пра тое, што «нам у першую чараду трэба адрадзіць сваю мову. Толькі тады ў нас будзе якоесь асобнае нацыянальнае жыццё, бо асобная мова — гэта і ёсць форма нацыянальнай асобнасці. Толькі адрадзіўшы мову, мы зможам паставіць на цвёрды грунт наш рух».**

*Ян Скрыган*

# БЛУКАННІ

## Кохія

**Я не ведаў, што гэта за расліна. З такою нетутэйшаю назваю. І не ўведаў бы, калі б не здарэнне.**

**Нашу брыгаду канторскіх работнікаў лагера вадзілі на работу пад канвоем: штораніцы — туды, і штовечар — назад. У канторы вокны былі з кратамі — каб ніхто не падумаў, што можна ўцячы. Ды ніхто ўцякаць і не збіраўся, бо ўсё навакolле — гэта лагер. Зона. Але парадак — ёсць парадак.**

Кузьма Карнееў быў бухгалтарам вытворчага аддзела. Па сутнасці, у яго аддзеле—уся працоўная дзейнасць гаспадаркі — работы хапала. Але ніхто ніколі не чуў і не бачыў, каб Кузьма журыўся, бедаваў ці скардзіўся. Ён быў чалавек прыгожы, чулы, просты, яму можна было б даваць усе пахвальныя эпітэты. Яго ўсе любілі.

А ён вельмі любіў кветкі. На рабоце яго месца было каля акна, і ўсё тое акно было застаўлена вялікімі і малымі вазонамі, якія ён штодня паліваў, з кожным то ласкава, то пагрозліва гаворачы. І яны як бы слухаліся яго: цвілі і красавалі.

Жылі мы ў закрытай зоне, у земляным доўгім бараку, месціліся на верхніх нарах у самым канцы. Якраз пры Кузьмовай пасцелі, у схілістым земляным даху было таксама глыбокае акно. І, вядомая рэч, яно было занята раскошным вазонам. Першы раз бачыў я такую паэтычную расліну з далікатным, празрыстым, падобным на лёгкі цень ці на пух квітненнем. Я любіў глядзець на яе, яна спараджала ў душы патрэбу ў далікатнасці, ласкавасці, чуласці. Мабыць, і ў самога Кузьмы было такое адчуванне, бо ён з ёю і гаварыў, і кожны раз як бы гладзіў ці папраўляў якую найбольш упартую галінку. І, вядома, паліваў, стараючыся, каб у вазоне было і не надта вільготна, і не суха. Ён вельмі пільнаваўся патрэбнай меры. І ўвечары, калі брыгаду прыводзілі з работы, ён першым чынам даглядаў гэты вазон.

І вось аднаго разу, калі прывялі канторскую брыгаду з работы, Кузьма не ўбачыў вазона на сваім месцы. Вазон валяўся на нарах, вырваны з пасудзіны разам з тугім камяком чорнай зямлі, пранізанай аголеным карэннем.

Божа, да чаго цяжка было глядзець, як балесна і нема плакаў Кузьма, падбіраючы аголеную расліну і ладзячы яе назад, у вазон.

Стары аднаногі днявальны Ермачэнка пакорліва сіліўся растлумачыць, што вобыск рабіла цэлая брыгада. Што нечага, мабыць, шукалі...

P. S. Не ведаю, чаму так здарылася, але ў мяне і сёння на сцяне, над маім сталом, на зграбна выштукаванай вузкай палічцы, у высокай, узнёслай металічнай вазе стаіць як бы той жа самы, распушаны куст кохіі. Як бы сцвярджаючы, што ў свеце маўкліва гаспадарыць толькі час і памяць.

## Эстонія

Усё было добра ў Фергане. І служба па душы, і людзі, з якімі знаўся. Тут пачалася ў мяне і сям'я. Новая. Бо першая — загінула. Не фізічна, але так распарадзіўся час. Пра гэта трэба расказваць асобна.

Дырэктар нашага прадпрыемства Уладзімір Кучарэнка працаваў, па сутнасці, часова. Ён быў глыбока вучоным чалавекам якраз па той галіне, дзеля якой будаваўся завод. І вось нарэшце аж праз некалькі гадоў глаўк спецыяліста знайшоў. Чалавек падкрэслена строгі, партыйны, вядома, — Курзін. Першае, з чаго ён пачаў сваю дзейнасць — з чысткі апарату, заводакіраўніцтва. Я, вядома, аказаўся чалавекам непажаданым.

Гэта было страшна зноў. Нават страшней як было, бо пад небяспеку падпадала ўжо другая мая сям'я: жонка Ганна, яе хлопчык Алік і наша дачушка Галачка.

Але выручыла нечаканасць.

У лагеры адбываў таксама свой час інжынер-будаўнік высокай кваліфікацыі Сцяпан Фядорчанка. Ён вызваліўся на колькі месяцаў раней за мяне, паехаў у Эстонію. Мы перапісваліся. Ён спыніўся ў гарадкуКівіылі, уладкаваўся на работу па спецыяльнасці — узначальваe гарадскі будаўнічы трэст. Пісаў пра самое мястэчка — што гэта цэнтр сланцавай прамысловасці, на базе якой існуе вялікі сланца-хімічны камбінат. Пра гэта ён сказаў невыпадкова: што няйначай як там ёсць патрэба ў бухгалтарах. Бо не так даўно яшчэ здабыча сланца была там справаю прыватнаю, і бухгалтэрыі, сапраўднай, бадай што не існавала.

Як жа дарэчы прыйшоўся мне гэты ліст! І мы, з новаю маёю сям'ёю, асмеліліся пусціцца ў далёкую пуцявіну. Як заўсёды, знайшліся і добрыя людзі: яны перадалі нам у дарогу каністру тутэйшага спірту. О, як гэта нас выручала: і пры перасадках, і пры ўладкаванні ў спакайнейшым месцы ў вагоне.

На камбінаце нас прынялі вельмі ахвоча: тут жа была знойдзена кватэра, я быў адразу прызначаны бухгалтарам у цэх па здабычы сланца і падземнага транспарту. Але бухгалтэрыі там папраўдзе як бы і не было. Трэба было пачынаць усё з самага пачатку. З курсаў. Каб людзі ведалі, што такое баланс, праводка, сальдавая і абаротная ведамасць, абаротны і шахматны баланс. Каб у цэнтральную бухгалтэрыю камбіната мы здавалі сапраўдны баланс з усімі расшыфроўкамі і дадаткамі.

І праз тры месяцы я прынёс у цэнтральную бухгалтэрыю камбіната справаздачу з усімі расшыфроўкамі і дадаткамі. Пасаду галоўнага бухгалтара камбіната выконваў часова бухгалтар з міністэрства, бо тутэйшая, камбінатаўская бухгалтарка запусціла ўсю справаздачу і з паўгода як кінула работу і з'ехала. Ён і з мяне пацяшаўся, як з кяўмекі.

— Ну паказвайце, паказвайце, што вы там прынеслі, дарагі таварыш,— гаварыў ён, разгортваючы маю справаздачнасць, і раптам сціх, замаўчаў...

Няйначай як па яго рэкамендацыі дырэктар камбіната Фердынант Меттус, чалавек разумны, далікатны, светлабровы, прыгожы, выклікаў мяне і папытаўся ці не мог бы я стаць за галоўбуха камбіната...

Вядомая рэч, што не ўсё гэта так скора і лёгка рабілася, як гаворыцца. Трэба было найперш авалодаць аб'ёмам работы: і адносіны з банкам, і крэдыторы, і дэбіторы, і пастаўшчыкі і даўгі. На першым часе я прыходзіў з работы толькі каб пераначаваць.

А час ішоў.

І нарэшце, мяне радавала, што я рэгулярна пачаў атрымліваць грошы з банка на зарплату. Хоць гэта нясціпла гаварыць, але было прыемна, калі часам пасля палучкі ў кабінет да мяне заходзілі дэпутацыі з рабочых і запрашалі пайсці з імі разам паабедаць. «Вельмі просім, ну хоць адну шклянaчку віна выпіце з намі», прасілі яны. Прызнаюся, можа, я і нядобра зрабіў, але ні разу на іхнюю просьбу не адгукнуўся.

Словам, усё ішлося як след. І на ра-

# НЕЧАКАНАЕ Ў ЗНАЁМЫМ ГОЛАСЕ

**Нататкі чытача лірыкі і перакладаў Рыгора БАРАДУЛІНА**

Калі я сустракаю ягоныя вершы, адразу пачынаю іх чытаць. Часта раблю гэта і ў гурце з сябрамі. Мне чуецца ягоны голас, быццам гэта было ўчора, і Рыгор у старой майстэрні на Усходняй вуліцы пазіруе мне, вымаўляючы свае новыя радкі. Радкі ў аўтарскай інтанацыі то меладыйныя, то запаволеныя. Здаецца, яны быццам пераскокваюць праз плот або гойсаюць цераз вогнішча на Купалле. Манера чытаць сваё ў Р. Барадуліна адметная. Уражанне такое, нібы ён і давярае табе, слухачу, і крыху саромеецца за сваю шчырасць. Праўда, апошнім часам у яго, як і ва ўсёй нашай мастацкай літаратуры, пераважае публіцыстычны напал. Мабыць, і такіх прамоў вымагае наш грамадскі клімат сёння, але мне больш імпануе ў Р. Барадуліна душэўны лірызм, прага споведзі, шчырасць у раскрыцці асабістых перажыванняў і ўражанняў.

І заўсёды здзіўляе штосьці нечаканае ў лексічных зваротах, здзіўляе раптоўна новае злучэнне слоў і паняццяў. Першы прыклад — з нізкі «Трыпутнік»:

**Прытомлены жыццёваю дарогай,**
**Сам у сябе заглядвай з асцярогай:**
**А раптам раб там?**

Чуеце, якая трывога трымціць у гэтым моўным сутыкненні «р»: «А раптам раб там?» Прачытаеш радкі і адчуеш, як тая асцярога сама па сабе ажывае ў тваёй душы. Магчыма, такое з'яўляецца ў чытача ў пастарэлым узросце, накшталт мяне. Я кажу так, бо мяне моцна ўражвае і такая плынь вершаванага роздуму Р. Барадуліна, замацаваная ў тым жа «Трыпутніку»:

**Нас кожны дзень, прызнаць мы мусім гэта,**
**Цясней абносіць лютым дротам гета,**
**Якое сумна старасцю завецца.**

Я ведаю трагізм самога паняцця «гета». Мне вядома і тое, што «сумна старасцю завецца» (як тут выразна гучыць «с» і «з»!).

Не ведаю чаму, але мне раптам прыгадаўся даўні верш Р. Барадуліна, які ўжо набыў хрэстаматыйнае гучанне (прынамсі, у маёй асабістай хрэстаматыі лепшага ў паэзіі ён займае трывалае месца),— «Куліна». Пра маці. Пра вайну. Пра непахісную дзіцячую веру ў сілу матчынай любові. У партызанскім лесе паэт хлапчуком зваў маці: «Ку-ліна-а...», а цяпер — праз гады — жыве голасам малечы, унучкі, у якім чуецца спакой лугавых кветак і цішыня палеглай травы. Мы звычайна гаворым пра ціхамірны настрой: «Цішэй вады, ніжэй травы», і паэт падхоплівае народны выраз і дае асацыятыўны варыянт: голас малечы «ад ціха палеглай травы». Інакш і не перадаць усю чысціню дзіцячага голасу! І натуральнай успрымаеш фанетычную інструментоўку заключных радкоў: «Малюся: Мацуйся, Малеча!» У гэтым «м» — і «мама», і «малітва», і «мая», і «маўчанне», і «мроі», і «мара»... Ва ўсякім разе сваім слыхам я так расшыфроўваю тое «м» у вершы «Голас».

Бывае, у спрэчках пра нейкія маральныя перакосы ў нашай мітуслівай штодзённасці я бяру томік Р. Барадуліна і разгортваю яго там, дзе паэт гаворыць пра каханне. Вось пачуццё, што ўладарыць людзьмі пры ўсякай палітычнай сітуацыі ў грамадстве! І мне прыемна адзначыць паглыбленне лірыкі кахання ў Рыгора. Ён робіцца ў ёй больш шчырым. Пяро яго набывае якасці скульптурнага разца, здатнага перадаваць пластыку руху і рысу вастрыні кахання. Перачытаем, напрыклад, верш «Табою пахнуць сцежкі, палыны...» Я назваў бы паэтычна цнатлівай сцэну, якую аднаўляе ў вершы Р. Барадулін: «Здаецца, Ты з той сіняй даўніны, Што з-пад рукі са мною выглядае, Калі ты прыляціш шчамлівай ластаўкай, Каб захлынуць і ласкаю, і пластыкай».

Пяшчота і шчырасць такога вобраза самі па сабе — хараство. Пяшчота і шчырасць у Р. Барадуліна не ведаюць мяжы, ім сугучны паэтычныя гіпербалы, і яны натуральна гучаць у такім прызнанні:

**Ці гора ў тым,**
**Каб не патраціць шчасце,**
**Пакутваць, дрыжэць за кожны міг,**
**Што дазваляе вуснамі прыпасці**
**Да шляху млечнага слядоў тваіх.**

«Млечы шлях тваіх слядоў» — толькі адзін з прыкладаў таго ўзбагачэння вобразнай мовы, якое дорыць нам здольны глыбока перажываць пачуцці паэт. Гэта — з верша «Ці шчасце ў тым...» Я мог бы яшчэ ў тым жа плане прыгадаць такія яго творы, як «Ад не трэба, не трэба...», «Я заклаў сваю душу...», «Як акіян, глухну...», «З кім гэта я змяніўся вачыма...», «Я выцісну цябе з сябе, як выціскаюць яд змяіны...», «Бурштынка», «Табою пахнуць сцежкі, палыны...» У лірычны настрой уплятаюцца іранічныя ноты, адгалоскі роспачы, усмешлівы гумар, але самым устойлівым застаецца, я сказаў бы, драматызм асалоды. Драматызм сустрэчы яго з Ёю...

Вабяць мяне і філасофскія схільнасці паэта. З выпадкаў і здарэнняў, з сустрэч і росстаняў, з даверу і варожасці ён імкнецца здабыць пэўную думку пра сэнс чалавечага існавання наогул. Ну, мабыць, не надта «наогул», бо тэма роднага краю, гістарычнага лёсу Бацькаўшчыны, да болю трапяткое адчуванне хараства матчынай мовы робяць Р. Барадуліна выразна беларускім па паходжанні і па вопыце мастаком слова.

Хай чытач не шукае ў Р. Барадуліна абавязкова адказ на нейкія жыццёвыя пытанні. Філасофская прага дайсці да ісціны часта крыецца ў саміх метафарах, моўных зваротах, нават у любімых паэтам каламбурах. Думаючы пра неабсяжнасць самога Часу, ён звяртаецца да Беларусі — колькі ёй год? І не злічыш — ці многа, ці мала? А колькі — радасці, скрусе? Яму хацелася б дайсці да вытокаў.

**Колькі крэўнаму слову,**
**Што вяшчуе святло,**
**Небу, што крутаброва**
**Маладзік узняло?..**

Так напісана ў вершы «Спадчына». І праз гэты нечаканы вобраз нам перадаецца пэўны таямнічы ход здагадкі аб бясконцым Часе, у якім мы, людзі, існуём у параўнанні з Беларуссю, з курганамі, з небам, нават з крэўным словам — імгненне. І мы ўсё ж маем магчымасць сваёй працай, сваёй павагай, нават сваім замілаваннем памножыць хараство роднага краю і дадаць годнасці слову і наогул Беларусі. Ці робім мы гэта?

Асабіста мне вельмі дарагім уяўляецца адданасць Р. Барадуліна Беларусі праз пачуццё нязмушанай любові да Віцебшчыны. З якім трапяткім высакародствам вымаўляе ён у вершах назву родных Ушачаў, Дзвіны, Полацка, Віцьбы... Шчыра скажу, што я ўставіў бы ў своеасаблівую раму, калі б яна існавала, такія вершы паэта, як «Віцебск асенні» або «Заінелая Ушаччына», «Жыццялюбамі землякі былі...» або «Стэарынавая свечка», «Еўдакія Лось» або цудоўны верш, падобны да паэмы, «Дзед».

Праўда, не скажу, што падзяляю ўсе меркаванні і ацэнкі, якія выказвае ў палемічным запале Р. Барадулін. У прыватнасці, адносна таго гістарычнага тэрміну, што звязаны з дзейнасцю І. Сталіна. Магчыма, гэта тлумачыцца тым, што сам я пражыў большую частку жыцця ва ўмовах усеагульнага ўхвалення гэтай асобы, прычым не толькі ў нашай краіне, а і такімі дзеячамі сусветнай культуры, як Б. Шоу, Л. Фейхтвангер, А. Барбюс, Р. Ралан, Г. Уэлс. З пункту гледжання гісторыі, наўрад ці безагаворачнае ўхваленне любой асобы справядлівае, але і суцэльнае аднабаковае ачарненне таксама не лепшы шлях. Наогул мастацкія хістанні ад адной крайнасці ў другую не служаць ісціне.

Ды ад лірычнай паэзіі чакаць аб'ектыўных ацэнак дарэмна, бо яна заўсёды плён творчасці непаўторнай мастакоўскай асобы. Суб'ектыўная. Думаю, што ў Р. Ба-

ПАЛЕМІЧНЫЯ НАТАТКІ

Іван ЛАСКОЎ

# Адкуль пайшла беларуская мова



**Шаноўная рэдакцыя! Апошнім часам быў заняты працай над кнігай, якая працягвае тэму «Племя пяці родаў». Цяпер гэтая кніга ў чарнавіку скончана. Прапаную вам скарочаны спецыяльна для «ЛіМа» заключны раздзел, у якім зусім па-новаму разглядаю гістарычны лёс беларускай мовы.**

**Аўтар.**

АДКУЛЬ пайшла беларуская мова? Легенда, створаная філолагамі, на гэта адказвае так.

Жыла-была калісьці агульная мова ўсіх славян: яшчэ тады, калі ўсе месціліся побач. Потым яны разышліся. І на новых жыхарствах узніклі тры новыя мовы: паўднёваславянская, заходнеславянская і ўсходнеславянская.

Апошняя, усходнеславянская, была агульнай мовай Старажытнай Русі—першай дзяржавы ўсходніх славян. Таму філолагі завуць яе яшчэ «старажытнарускай» («древнерусский язык»). Старажытнаруская мова мела магчымасці заставацца навек адзінай. Але адбыўся палітычны катаклізм: прыйшла навала з усходу. Татара-манголы захапілі большую частку Русі, рэштка трапіла ў склад Вялікага княства Літоўскага, а потым—Рэчы Паспалітай. Да таго адзіны «старажытнарускі народ» аказаўся падзеленым. У выніку падзялілася, «распалася» і «старажытнаруская мова»: ад расейскай адпалі ўкраінская ды беларуская, што зазналі летувіскі і польскі ўплыў.

Такая схема. Яна ўвайшла ў безліч школьных і інстытуцкіх, універсітэцкіх падручнікаў, з дапамогай якіх убіваецца ў галовы кожнаму новаму пакаленню. Нездарма ж адзін з чытачоў «Народнай газеты» выказаўся так: «Белорусский язык—это тот же русский, по которому походил польский сапог». І што цікава, газета не знайшла, чым гэта абвергнуць!..

А абвергнуць жа можна было! І не толькі можна—трэба. Бо ёсць яшчэ людзі, якія ўспрымаюць змаганне за незалежнасць Беларусі як валтузню: маўляў, навошта нам незалежнасць, калі беларусы—тыя самыя рускія, па якіх пахадзіў польскі бот? Раз яны былі калісьці гвалтоўна адарваны ад рускіх братоў, дык чаму б да іх не вярнуцца? І ўжо, глядзіш, прымаюцца дзе-нідзе рэзалюцыі—ні болей, ні меней—аб далучэнні нейкага завода да РСФСР... Менавіта гэтага і дамагаўся сотні гадоў расейскі царызм, а пасля яго — КПСС на чале з Леніным, Сталіным, Хрушчовым, Брэжневым.

Любая просценькая схема ўражвае сваёй закончанасцю. Аде давайце накладзём яе на гістарычныя факты.

Найноўшы «Лингвистический энциклопедический словарь» (М., 1990) сцвярджае, што «древнерусский язык» распаўся на тры асобныя ўсходнеславянскія мовы ў 14—15 стагоддзях (с. 143). Сапраўды, калі чытаць літаратуру, створаную на тэрыторыях Расеі, Украіны ды Беларусі, то можна заўважыць, што да 15 стагоддзя і нават пазней яна пісалася на адной мове, а потым на Беларусі ды Украіне тэксты пачынаюць усё болей ад яе адхіляцца. Але ці не прымаем мы за распад мовы штосьці іншае?

Лінгвісты з доктарскімі ступенямі, акадэмікі не могуць не ведаць, што і сёння кніжная мова і гутарковая—не адно і тое ж. І сёння, напрыклад, на Беларусі існуе дыялектны падзел, ажно паляшук ды палачанін, гаворачы кожны па-свойму, не надта разумеюць адзін аднаго. А кніжную мову Кіеўскай Русі чамусьці лічаць адзінай гутарковай для ўсяе дзяржавы!

Згодна з «Лингвистическим энциклопедическим словарем» (с. 143), «старажытнаруская мова» сфармавалася ўжо ў 7—8 стагоддзях. Значыцца, да свайго «распаду» існавала 700—800 гадоў! І раптам—«распалася». З-за падзелу «древнерусского народа» паміж татарамі ды Літвой.

Калі такое магчыма, дык павінны быць і іншыя прыклады распаду мовы. Але дзе яны?

Ні ў 14—15 стагоддзях, ні перад імі, ні пасля іх у Еўропе не распадалася аніводная мова, хаця народы, было, падзяляліся. Так, нямецкі этнас дзяліўся паміж дзесяткамі дзяржаў. Але ў моўным сэнсе застаўся адзіным. Частка румынаў стагоддзі стагнала пад прыгнётам Турцыі, частка ўваходзіла ў Аўстра-Венгрыю з яе афіцыйнай нямецкай моваю. Але з-за гэтага дзве румынскія мовы не ўзніклі. Больш за сто гадоў палова Польшчы знаходзілася пад Расеяй, палова—пад Германіяй ды Аўстра-Венгрыяй. Але польская мова ад таго не падзялілася.

Дык, можа, «древнерусский народ» пасля падзелу трапіў у нейкія асаблівыя ўмовы? Аніяк не скажаш гэтага! Ці маглі зрабіць татары на расейцаў сур'ёзны моўны ўплыў, калі жылі далёка ў стэпах, а «кіраванне» Масквой з іх боку вылівалася толькі ў збіранне даніны ды рабаўніцкія набегі? Невыпадкова ж расейская мова—найбліжэйшая да «старажытнарускай».

А аб якім моўным ціску з боку летувісаў можна гаварыць, калі ў Вялікім княстве Літоўскім дзяржаўнай мовай напачатку была менавіта «старажытнаруская», якую замяніла старабеларуская? Летувісы ж і пісьмовасці не мелі аж да 16 стагоддзя. Можна прама сказаць, што ў Вялікім княстве меліся якраз найлепшыя ўмовы для захавання і развіцця «старажытнарускай». Дык чаму ж яна тут, згодна з «Лингвистическим энциклопедическим словарем», ужо з 14 стагоддзя пачынае саступаць месца беларускай?

І яшчэ загадкавая з'ява. Чаму ў межах Вялікага княства Літоўскага са «старажытнай» утварыліся аж дзве новыя мовы—беларуская ды ўкраінская? Чаму ўкраінская не бліжэйшая да расейскай, хаця Кіеў быў «адарваны» ад Расеі на 200 гадоў меней, чым Беларусь? (Да сярэдзіны 14 стагоддзя разам з Масквой уваходзіў у склад Залатой Арды, а ў 1654 годзе далучыўся да Расеі, у той час як Беларусь была захоплена Расеяй напрыканцы 18 стагоддзя, татарскага ж панавання не ведала зусім).

Камуністычная расейская філалогія такіх пытанняў не ставіць, бо яны невыгодныя для тэорыі адзінага паходжання расейцаў, украінцаў ды беларусаў, не працуюць «на грядущее» зліццё ўкраінцаў ды беларусаў з расейцамі, г.зн. паглынанне апошнімі першых. Дык паспрабуем адказаць на іх самі. А для гэтага ў першую чаргу прыгледзімся: што ж гэта за «старажытнаруская мова», ад якой пайшла нібыта наша?

ЯК БЫЛО ЎЖО ЗГАДАНА, «Лингвистический энциклопедический словарь» вызначае часам яе сфармавання «ў Старажытнарускай дзяржаве» сёмае-восьмае стагоддзі. Пры гэтым аўтара артыкула «Древнерусский язык» В. В. Іванова зусім не бянтэжыць, што Рурык, паводле летапісных звестак, пачаў княжаваць толькі ў 862 годзе, г.зн. ані ў сёмым, ані ў восьмым стагоддзях Старажытнарускай дзяржавы не існавала. І як звесці гэта са сцвярджэннем таго ж «Лингвистического...», што «старажытнаруская (усходнеславянская) мова» ідзе непасрэдна ад агульнаславянскай (с. 95)? Калі «старажытнаруская» — прамая наступніца агульнаславянскай, то навошта для яе «фармавання» была патрэбна дзяржава?

Вось у чым рэч. Схеме моўнага развіцця: агульнаславянская мова—усходнеславянская супярэчаць факты. Бо як трэба разумець генеалогію моў? Драбленне моў выклікалася драбленнем іхніх носьбітаў—вось як. Калі існавала некалі агульнаславянская мова, то гэта значыць, што было **адно** нейкае племя, якое карысталася ёю. Потым, павялічыўшыся, яно падзялілася на тры плямёны: паўднёвае, заходняе і ўсходняе. Адпаведна гэтаму з ранейшай агульнай іх мовы ўзніклі тры новыя: паўднёваславянская, заходнеславянская ды ўсходнеславянская. А тыя, у сваю чаргу падзяліўшыся, далі сучасныя славянскія мовы...

**Нешта падобнае і накрэслівае кіеўскі летапіс — «Аповесць мінулых гадоў» («Повесть временных лет»). Ён паведамляе, што славяне спачатку жылі на Дунаі, адкуль разышліся «и прозвашася имены своими, где съдше на которомъ мъстъ». Так узніклі маравы, чэхі, харваты, сербы, харутане. Славяне, што прыйшлі на Віслу, спачатку назваліся ляхамі. Потым ляхі падзяліліся, у выніку чаго з'явіліся палякі, луцічы, мазаўшане, памаране.**

**Такім чынам, для заходніх славянаў прама ўказваецца носьбіт іх агульнай мовы — ляхі. Для паўднёваславянскай жа мовы такога носьбіту не ўказваецца. Не згадана ў летапісе і племя, ад якога пайшлі б, як ад ляхаў палякі, луцічы, мазаўшане ды памаране, усходнеславянскія плямёны.**

**Згодна з «Аповесцю...», славянамі Кіеўскай Русі былі славяне Ноўгарада, паляне (раён Кіева), север (Чарнігаўшчына), драўляне (на паўночны захад ад Кіева), драгавічы (між Прыпяццю і Дзвіною) ды палачане (Полацак). І ні слова пра тое, каб усе яны былі нашчадкам аднаго племя.**

**Адкуль канкрэтна прыйшло кожнае? Пра гэта летапіс маўчыць. Ясна ўсё ж, што не ўсе з Дунаю, бо тады летапісец сказаў бы. А мы што ведаем?**

**У арыгінале «Аповесці...» палякі названы палянамі. (Гл. Изборник. М., 1969, с. 28). Гэтаксама звалася і племя, што жыло вакол Кіева. Хто-небудзь скажа: ну і што? Там палі — і там палі, дык чаму і тыя, і другія не маглі назвацца ад поля? А вось паглядзіце, што піша аўтар «Аповесці...»: «Бяше около града (Кіева. — І. Л.) лъсъ и боръ великъ» (Изборник, с. 32). Бачыце, не «поле», а «лъсъ и боръ великъ»! І займаліся паляне Кіева галоўным чынам не земляробствам: «бяху ловяще звърь, бяху мужи мудри и смыслени, нарицахуся поляне» (тамсама). Дык ці можна дапускаць, што паляне Кіева — частка палянаў Віслы? Думаю — можна.**

**З палянамі Кіева суседзілі севяране. Гэтая назва дадзеная ўжо даследчыкамі, бо ў летапісе сказана — СЕВЕР (Изборник, с. 28). Ці не гаворыць такая назва, што гэтае племя першапачаткова было самым паўночным з усіх славянскіх? Цалкам магчыма — гаворыць. А дзе была славянская поўнач? Узбярэжжа Балтыйскага мора.**

**У Ноўгарадзе жылі славене. Такое ж імя сёння носяць грамадзяне Славеніі. Але былі і заходнія СЛАВІНЫ, родныя кашубам. І вось што цікава: мова ноўгарадскіх берасцяных грамат 10—12 стст. мела агульныя рысы з ЗАХОДНЕСЛАВЯНСКІМІ дыялектамі (Лингвистический энциклопедический словарь, с. 98). Так што і ноўгарадцы маглі прыйсці аднекуль з Польшчы.**

Нашы продкі крывічы і радзімічы безумоўна прыйшлі з захаду (гл. М. Ермаловіч. Старажытная Беларусь. 1990, с. 28, 37). Драгавічоў жа Мікола Івановіч залічвае ў тыя плямёны, якія прыйшлі з поўдня. У той жа час былі драгавічы і палабскія (гл. тамсама, с. 22).

Такім чынам, большасць славянскіх плямёнаў на ўсход прыйшла з захаду, астатнія—з поўдня. Зразумела, што гаворкі іх не маглі быць аднолькавыя. Хоць філолагі пра гэта не гавораць, але ўсведамляюць. Адсюль і тэзіс аб «фармаванні» з тых гаворак агульнай усходнеславянскай мовы: не было, дык сфармавалася!

Але як жа яна магла сфармавацца ў 7—8 стагоддзях, хай сабе і была дзяржава (якой напраўдзе не было)? Што ўяўляла сабою дзяржава ў тыя часы? Сядзеў у сталіцы вялікі князь ды збіраў даніну. Вось практычна і ўся дзяржава. Гаспадарка—натуральная: што людзі здабывалі ды вырошчвалі, тое і елі. Мабілізацыя ў княскую дружыну не вялася, набіралася яна з княскага акружэння. Такім чынам, насельніцтва не перамешвалася, рух яго ў межах дзяржавы быў мінімальны. Пісьмовасці не было, адукацыя адсутнічала. Як жа магла ў такіх умовах з розных гаворак выпрацавацца адна агульная мова?

Мы ж добра ведаем, што нават і Расейская імперыя, з яе паліцэйска-адміністрацыйным апаратам, распаўсюджанай пачатковай школай, прэсай і іншымі спосабамі пашырэння мовы, не змагла ператварыць у расейцаў усе падпарадкаваныя народы. Так што само па сабе стварэнне дзяржавы яшчэ не вядзе да моўнай кансалідацыі краю.

Праўда, у Кіеўскай дзяржаве была мова, на якой пісаліся творы ды дакументы і ў Кіеве, і ў Полацку, і ў Маскве. І ніякіх іншых моў ад таго часу не засталося. Але ці таму, што яна ўвогуле была адна? Можа, таму, што іншыя не фіксаваліся на паперы?

Дарэчы, філолагі сцвярджаюць, што ў Кіеўскай Русі было аж дзве пісьмовыя мовы. Адна—гэта тая, што прыйшла сюды разам з хрысціянствам, мова Святога Пісання. Другая—тая, што ўжо была тут, з 7—8 стагоддзяў. Першую называюць царкоўнаславянскай (стараславянскай), другую—старажытнарускай.

Чым жа адрозніваюцца яны між сабою? На гэта адказвае М. Самсонаў, аўтар падручніка «Древнерусский язык». Цікавая рэч—аказваецца, толькі фанетыкай! Прычым і фанетычных адрозненняў—усяго 8: у царкоўнаславянскай—**глава, млъко, брѣгъ, шлѣмь**, у «старажытнарускай» — **голова, молоко, берегъ, шеломъ**, у царкоўнаславянскай **елень, езеро, единъ**, у «старажытнарускай»—**олень, озеро, одинъ**; у царкоўнаславянскай — **югъ, южинъ, юноша**, у «старажытнарускай» — **оугъ, оужинъ, оуноша** і да т. п. Ды яшчэ некалькі самастойных слоў у «старажытнарускай»: у царкоўнаславянскай инстина, съвѣдѣтель, бракъ—у ёй **правьда, видокъ, сватьба**. І ўсё! Марфалагічных адрозненняў — ніякіх, прыстаўкі і суфіксы «старажытнарускай»—царкоўнаславянскія! (Гл. Н. Г. Самсонов. Древнерусский язык. М., 1973, с. 71—75). І гэта **дзве розныя** мовы? Ды тут жа і пра дыялекты нельга гаварыць! А «знаўцы» дзеляць кіеварускую літаратуру: вось гэты твор напісаны на царкоўнаславянскай, а гэтыя («Руская праўда», «Павучэнне Уладзіміра Манамаха», «Слова аб паходзе Ігаравым», «Маленне Данілы-вязьня») — на старажытнарускай... Нягледзячы на тое, што і «старажытнарускія» шчодра перасыпаныя «ўсімі асаблівасцямі» царкоўнаславянскай. Вось маленькі, але красамоўны прыклад. На пачатку «Слова аб паходзе Ігаравым» маецца такі зварот: «О бояне, **соловию** стараго времени! А бы ты сиа плъкы ущекотал, скача, **славию**, по мыслену древу». Як бачыце, у адным сказе—царкоўнаславянскае **славию** і «старажытнарускае» **соловию**, што азначае адно і тое ж (салавей).

Для параўнання адзначу, што наш Ф. М. Янкоўскі знаходзіць паміж беларускай і расейскай мовамі 27 фанетычных адрозненняў, 43 марфалагічныя і болей за два дзесяткі сінтаксічных (гл. Ф. Янкоўскі. Гістарычная граматыка беларускай мовы. 1983, с. 21—38). Ужо не кажу пра лексічныя, якіх ніхто не лічыў. І то знаходзяцца расейскія філолагі, якія не супроць залічыць беларускую мову ў «наречия» расейскай (адзін такі разумнік выкладаў у Літаратурным інстытуце, калі я там вучыўся). А тут — усяго 8 фанетычных адрозненняў, некалькі іншых слоў, і ўжо сцвярджаецца наяўнасць самастойнай «старажытнарускай» мовы.

Час ужо паставіць кропкі над «і»: старажытнарускай мовы ніколі не існавала, ні пісьмовай, ні гутарковай. Былі гаворкі палянаў, драўлянаў, крывічоў, драгавічоў і г. д. А тое, што нам засталося ад Кіеўскай Русі на паперы, напісана на царкоўнаславянскай, мове Бібліі. Іначай і быць не магло. Мова Бібліі, як і сама яна, у тыя часы лічылася свяшчэннай і адзіна магчымай для пісьмовага выкарыстання. Тое самае было і з лацінай у Заходняй Еўропе. Для таго, каб прыйсці да думкі, што і іх прыродная мова можа ўжывацца на пісьме, людзі павінны былі зазнаць рэвалюцыю свядомасці. Невыпадкова ж першы помнік польскай мовы датуецца **сярэдзінай XIV стагоддзя** (гл. Лингвистический энциклопедический словарь, с. 383). І яшчэ некалькі стагоддзяў уся Еўропа пісала на лаціне не толькі рэлігійныя кнігі, але і законы, і трактаты, і мастацкую літаратуру, як «Пахвальба дурноце» Э. Ратардамскага, «Песня пра зубра» М. Гусоўскага.

Царкоўнаславянская мова ва Усходняй Еўропе выконвала тую ж ролю, што і лаціна ў Заходняй. Біблія была не толькі Свяшчэнным Пісаннем, але і адзіным падручнікам, па якім вучыліся чытаць і пісаць. Але ж веданне чужой мовы ніколі не бывае стопрацэнтным. Таму і кіеўскія аўтары, пішучы на царкоўнаславянскай, рабілі супраць яе памылкі: замест «славию» — «соловию», «градъ» — «городъ», «млеко» — «молоко» і г. д. Маглі ўставіць і нейкае вядомае ад нараджэння слова, асабліва калі ў Бібліі не знаходзілася адэквата. Тым і тлумачацца адступленні ад мовы Пісання ў пэўных творах. І ці правільна памылкі супраць мовы абвяшчаць мовай?

Калі б агульная ўсходнеславянская мова існавала, то яна была б зусім іншай, чым царкоўнаславянская. Мы ж ужо гаварылі, што большасць славянскіх плямёнаў Кіеўскай Русі прыйшла з захаду, і гаворкі іх былі заходнія, блізкія да польскіх, чэшскіх, мараўскіх, лужыцкіх. Асабліва гэта тычыцца гаворкі палянаў, што ўяўлялі сабою частку палянаў Віслы. А царкоўнаславянская мова — выхадзень з самага крайняга поўдня славянскага арэалу. Перакладчыкі Бібліі на яе Кірыла і Мяфодзій нарадзіліся і выраслі ў грэцкім горадзе Салонікі, дзе тады было нямала балгараў. На мову тых балгараў яны і перакладалі Біблію з грэцкай. Дасканала гаворку салоніцкіх славянаў яны, безумоўна, не ведалі і актыўна ўносілі ў пераклад і грэцкія словы, і грэцкія граматычныя з'явы, як дзеепрыметнікі, клічны склон, парны лік і інш. Таму царкоўнаславянская мова — паўднёваславянская ды яшчэ элінізаваная. «Старажытнаруская», калі б яна існавала, павінна была б адрозніваца ад яе прыблізна так, як адрозніваецца польская ад балгарскай. А паміж «старажытнарускай» ды царкоўнаславянскай знаходзяць толькі восем фанетычных розніц...

РАЗУМЕННЕ ТАГО, што славянскія гаворкі Беларусі былі пераважна заходнімі, мае вялікае значэнне. Не, па нашай мове «польскі бот» не хадзіў. Яна сама па сабе, ад вытоку была блізкая да польскай, як блізкія да той чэшская, славацкая, лужыцкая. Вялікая колькасць беларускіх слоў, што супадаюць з аналагічнымі польскімі, існуе ў ёй спрадвечна: **бачыць, кахаць, рэч, уласны** і гэтак далей. **Свой жа сённяшні ўсходнеславянскі выгляд беларуская мова набыла ў выніку сямісотгадовага ціску з боку царкоўнаславянскай.**

Не дзяржава, а царква выканала гіганцкую працу па ператварэнні заходнеславянскай моўнай плыні ў нешта такое, што завецца цяпер усходнеславянскай падгрупай моў. Бо дзяржава карысталася пісьмовай мовай час ад часу, а царква — кожны дзень. Па ўсёй краіне, у кожным храме. Вы ўявіце сабе: дзень пры дні, з году ў год, ад пакалення да пакалення народ чуе ў царкве адну і тую ж мову. На ёй завучвае модлы, спявае псалмы. Ці ёсць лепшы спосаб для вывучэння мовы?! Ужо не кажу пра тое, што царкоўнаславянская была мовай Бога, і, далучыўшыся да яе, вернік нібы атрымліваў магчымасць гаварыць з Творцам!

Моц царквы ў гэтым сэнсе добра разумелі маскоўскія манархі, што мелі на ноце уніфікацыю свае стракатае па мове дзяржавы. «Адным з галоўных клопатаў Івана Васільевіча (Жахлівага. — **І. Л.**) было абрусенне падпалых пад уладу яго іншародцаў. Сродкам для выканання гэтай важнай дзяржаўнай мэты было распаўсюджанне паміж напалову дзікімі плямёнамі хрысціянскай веры. І мы бачым, што Іван Васільевіч і потым Гадуноў прымалі для распаўсюджвання хрысціянства самыя энергічныя захады. Хрышчэнне было гвалтоўнае, адначасова з ім ішло разбурэнне мячэцяў у мусульманаў, керамецяў, свяшчэнных гаёў у паганаў і г. д.». (П. И. Мельников. Очерки мордвы, Саранск, 1981, с. 33). П. Мельнікаў (расейскі пісьменнік Андрэй Пячэрскі) паказвае і вынікі гэтага наступу на мардву. Нейкі пан Н. запрашае аўтара на эрзянскае вяселле. Аўтар прызнаецца: «Але я не ведаю па-мардоўску, нічога не зразумею». Н. супакойвае: «Слова мардоўскага не пачуеце: ва ўсёй Цярэшаўскай воласці наўрад ці знойдзецца цяпер чалавек, які б ведаў сваю ранейшую мову» (тамсама, с. 110. Твор напісаны да 1851 года).

Сёння царква не з'яўляецца манапалістам моўнага ўздзеяння: школа, прэса, кнігавыданне і іншыя сучасныя сродкі — магутнейшыя, чым царкоўная імша. Але не звяртаць увагі на моўную ролю царквы нельга. Беларуская дзяржава, калі яна дбае аб захаванні мовы, павінна ў першую чаргу падтрымліваць тыя канфесіі і тых святароў, якія вядуць богаслужбу па-беларуску.

Кіеўская Русь як адзіная дзяржава існавала паводле гістарычных мерак вельмі нядоўга. Полацкае княства ў яе ўваходзіла, напрыклад, усяго гадоў 70. Зразумела, за такі тэрмін у беспісьмовыя часы вялікіх моўных зрухаў адбыцца не магло. Ды Русь распалася на княствы, а фактар царкоўнаславянскай мовы працягваў дзейнічаць. І пасля прыходу захопнікаў-татараў — таксама, бо рэлігію ж у сувязі з гэтым усходнія славяне не змянілі. Царкоўнаславянская мова як у Вялікім княстве Літоўскім, так і ў Масковіі заставалася дзяржаўнай, шліфавалася і ўдасканальвалася, набывала ўласных граматыстаў. Але набліжаўся час Рэфармацыі, калі грамадства пачало ўспрымаць, што народная мова заслугоўвае не меншай увагі, чым царкоўная, калі ўрэшце і Біблія пачала перакладацца на самыя розныя нацыянальныя мовы, да чаго дачыніўся і наш Скарына. І паступова з-пад спуду царкоўнаславянскай мовы пачынае выпіраць, а потым і вырывацца народнае, размоўнае слова.

Калі ўважліва прыглядзецца да гэтых навацый у помніках беларускай пісьмовасці, пачынаючы з 15 стагоддзя, то можна пераканацца, што яны маюць заходні характар. Іх лічаць запазычаннямі з польскай, але яны — не польскія, ці скажам болей дакладна, далёка не цалкам польскія. Гэта можна добра праілюстраваць мемуарамі Ф. Еўлашоўскага ды лістамі Ф. Кміты-Чарнабыльскага, напісанымі ў другой палове 16 стагоддзя (гл. Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі 17 ст. 1983; Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. 1975). Гэтыя творы так перасыпаны, здавалася б, польскімі словамі, што складваецца ўражанне: аўтары пішуць па-польску, толькі кірыліцай і з вялікімі памылкамі. Але гэта не пальшчызна. Гэта — жывая мова беларускіх асяроддзяў, з якіх выйшлі аўтары, заўважу, асяроддзі праваслаўныя. Чаму не пальшчызна? Таму, што гэтаму супярэчыць шэраг характэрных рысаў. Вядома, што ў польскай мове на месцы этымалагічнага «р» часта ўжываецца «ш» або «ж»: «тшы» (тры), «жэка» (рака). Гэта — характэрная і непаўторная прыкмета польскай мовы. А ў творах Еўлашоўскага ды Кміты-Чарнабыльскага словы, якія мы ўспрымаем як польскія, пішуцца толькі праз «р»: **прыгода** (па-польску **пшыгода**), трэба (тшэба), пришлое (пшышлэ) і г. д. Тое сама тычыцца і польскага «у» на месцы этымалагічнага «о». Еўлашоўскі і Кміта-Чарнабыльскі пішуць «кроль», «кторы», «премовивши», у той час як па-польску «круль», «ктуры», «пшемувівшы». І гэта не выпадковыя абмылкі, а рэгулярна вытрыманы на працягу ўсяго рукапісу падыход. Тым часам, абодва аўтары добра ведалі польскую мову. Пра гэта сведчыць, напрыклад, ліст Кміты-Чарнабыльскага, напісаны па-польску, дзе няма аніякіх памылак (гл. Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці, с. 107—108). Значыць, Кміта-Чарнабыльскі добра адрозніваў польскае ад свайго. Сваім жа ў беларускай мове быў вялікі пласт слоў, агульных для беларускай і польскай, які існаваў у беларускіх гаворках ад часоў заходнеславянскага супольніцтва. Толькі продкі беларусаў вымаўлялі гэтыя словы па-свойму, у прыватнасці, без замены «р» на «ш» ды «ж» і «о» на «у».

Увогуле, калі не прызнаць, што славянскія гаворкі Беларусі спаконвечна былі блізкімі да польскіх, то немагчыма растлумачыць тую павальную добраахвотную паланізацыю, што ўрэшце заліла беларускую шляхту. Бо што яшчэ: цяга да болей высокай культуры? Але ж Вялікае княства Літоўскае мела сваю, не ніжэйшую. Мела пісьмовасць, не маладзейшую за польскую, шматжанравую літаратуру, гарады і замкі. Пераход да каталіцызму? Але касцёл у тыя часы працаваў яшчэ на лаціне, што аніяк не магло далучаць верніка да польскай мовы.

Думаецца, што старабеларуская пісьмовая мова не адлюстроўвае сапраўднага стану старабеларускай размоўнай, якая была значна бліжэйшай да пальшчызны. Пры гэтым пісьмовая была цесна звязаная з царкоўнаславянскай, г. зн. мовай царквы. А 17—18 стагоддзі былі ўжо новым часам, калі рэлігійнае і свецкае стала рэзка падзяляцца, свецкае рабіцца прыярытэтным. Польская ж мова была тады чыста свецкай. Можа, таму і хіснулася да яе маларэлігійная шляхта Вялікага княства, што мяняла веру як пальчаткі?

Сказанае пра спаконвечную роднасць польскай і беларускай моў (якой тлумачацца і уніі ВКЛ з Польшчай) зусім не азначае, што мы можам хапаць без разбору любое польскае слова, як толькі не можам прыгадаць свайго. Адна рэч—старадаўні агульны пласт, а другая—новая польская лексіка, створаная польскім народам за апошнія стагоддзі: навошта нам яна? Беларускай мовай таксама назапашаныя незлічоныя скарбы, асабліва ў дыялектах. Думаецца, што перад нашымі лінгвістамі стаіць вялікая задача па звядзенні ўсіх дыялектных збораў у адзін шматтомны слоўнік, які б заўсёды быў пад рукой кожнага пісьменніка, газетчыка, настаўніка і ўсіх іншых, хто мае дачыненне да мовы.

СТАРАБЕЛАРУСКАЯ пісьмовая мова — гэта поле змагання беларускай з царкоўнаславянскай. Згодна з логікай развіцця гэтая барацьба мусіла скончыцца перамогай народнай мовы. Але на гэта на стала часу: старабеларуская ў 1696 годзе была пазбаўлена статуса дзяржаўнай і спыніла сваё існаванне. Царкоўнаславянская ж як мова царквы працягвала жыць у праваслаўных ды уніяцкіх храмах. І, здавалася б, яна павінна была знішчыць народную дашчэнту, замяніць яе сабой. Ды гэтага не адбылося, дзякуючы невычэрпнаму запасу жыццёвых сіл народнай мовы, не растрачаных яшчэ і сёння.

Прыблізна гэткі ж лёс і ўкраінскай мовы, што з беларускай мае адны, заходнеславянскія карані. Вось перада мною ўкраінскі тэкст — пераклад апавядання Л. Дайнекі «Горад, восень і я». Як шмат і тут «паланізмаў»! І што цікава: тыя самыя «паланізмы» жывуць або жылі і ў нашай мове. Місто — папольску място, па-беларуску места (цяпер часцей «горад»). Рок — папольску рок, беларусы-эмігранты таксама ўжываюць рок (год). **Будинок—будынэк — будынак. Світанок — сьвітанэк — світанак. Чэкати — чэкаць — чакаць...**

Украінскія словы **місто, рок, будинок, світанок, чекати** выпісаны мною з аднаго абзаца, што складаецца з чатырох радкоў (Рідня. Оповідання молодих білоруських письменників. Київ, 1980, с. 79). Калі ўсё гэта — запазычанні з польскай, дык чаму беларусы і ўкраінцы так дружна запазычвалі адны і тыя словы? А колькі можна яшчэ дадаць у гэты беларуска-ўкраінска-польскі запас. Кахаць, бачыць, трэба, уласны... Без ліку такіх слоў! А ў расейскай мове іх няма.

Такім чынам, вытокі беларускай і ўкраінскай моў вельмі блізкія. Ціснуў іх і агульны прэс царкоўнаславянскай. Не мае значэння, што Кіеў быў на дзвесце гадоў меней «адарваны» ад Расеі, чым Менск ды Полацк: царкоўнаславянская мова «апрацоўвала» беларускую ды ўкраінскую мовы адзін часавы адрэзак, ад прыняцця хросту да часоў канчатковага падзелу на царкоўнае і свецкае ў культуры. Адсюль і выключная блізкасць моў-сёстраў.

Іншы быў гістарычны шлях у расейскай мовы. Расейская — гэта фактычна царкоўнаславянская, лагічны вынік яе шматстагодняга развіцця, у той час як беларуская ды ўкраінская — вынік змагання мясцовых, заходнеславянскіх гаворак супраць царкоўнаславянскай мовы.

Выходзіць, у Расеі мясцовыя славянскія гаворкі былі цалкам вынішчаныя царкоўнай мовай? Не зусім так. На поўдзень ад Масквы маюцца моўныя асаблівасці, блізкія да беларускіх (напрыклад, яканне). Але гэта толькі выспачкі ў моры расейскай літаратурнай мовы з яе прастамоўнымі варыянтамі. Нездарма лічыцца, што расейская мова практычна не мае дыялектаў.

Чаму ж расейцы так паддаліся мовепрыблудзе, падпарадкавалі ёй сваё духовае жыццё? Каб адказаць на гэтае пытанне, давайце разгледзім «стартавы» плямённы склад расейцаў.

**Паводле «Аповесці мінулых гадоў», на расейскай тэрыторыі жыло толькі адно славянскае племя: славены Ноўгарада. Прычым яно, трэба думаць, было зусім невялічкім, бо з прыходам варагаў змяніла сваю назву на «русь» (И от тъхъ варягъ прозвася Руская земля, новугородьци, ти суть людье ноугородьци от рода варяжьска, преже бо бъша словени» (Изборник, с. 34). Затое фіна-ўгорскіх плямёнаў, згодна з тым жа творам, было аж некалькі: чудзь, весь, мурама, мера. Праўда, афіцыйны пункт гледжання такі, што з плямёнаў, якія ўвайшлі ў склад расейцаў, славянскімі былі яшчэ ўсходнія крывічы ды вяцічы. Шмат пораху траціць У. Чывіліхін, каб давесці, быццам вяцічы — тое самае слова, што і венеды, лацінская назва старажытных славян (гл. В. Чивилихин. Память. Роман-газета, 1982, № 17, с. 37—40). Але што агульнага ў гэтых двух словах, апрача першае літары? А тым часам удмурты здаўна падзяляліся на дзве вялікія групы—КАЛМЕЗ і ВАТКА (М. Г. Атаманов. Удмуртская ономастика. Ижевск, 1988, с. 18). Яшчэ ў другой палове 18 стагоддзя ўдмурты жылі і ў Сярэднім Паволжы (В. М. Кабузан. Народы России в XVIII веке. Численность и этнический состав. М., 1990, с. 140). Вельмі падобна, што жылі яны і на тэрыторыі будучай Масквы. Тут была, напрыклад, вёска Бутырка. Гэтая назва асацыіруецца цяпер са змрочным астрожным замкам, дзе давялося пакутаваць і нашаму Францу Аляхновічу. А паўдмурцку БУТЫРКА — «кучаравы».**

**Ці будзе хто аспрэчваць, што ВАТКА куды бліжэйшае да ВЯЦІЧЫ, чым венеды? Славянскі суфікс -ІЧ- у ВЯЦІЧЫ не сведчыць пра славянскасць КАРАНЯ, суфікс мог быць далучаны славянамі. На такую думку наводзіць наступны факт. У першым творы старажытнарасейскай літаратуры «Слово о погибели Рускыя земли» сярод розных пералічаных аўтарам плямёнаў згадваюцца і «ТОЙМИЧИ ПОГАНИИ» (Изборник, с. 326). Каментатар зазначае: «Тоймічы—адно з фінскіх плямёнаў, што жылі на р. Тойме, доплыве Паўночнай Дзвіны» (тамсама, с. 738). Дык чаму не магло атрымацца ВЯЦІЧЫ з ВАТКА, як ТОЙМІЧЫ з ТОЙМА? А археолаг піша: «Відавочна, пэўныя славянскія групы сярэднявечча, напрыклад, ВЯЦІЧЫ і УСХОДНІЯ КРЫВІЧЫ, УЯЎЛЯЛІ САБОЮ НЕ СТОЛЬКІ СЛАВЯН, КОЛЬКІ АСІМІЛЯВАНАЕ СЛАВЯНАМІ ФІНСКАЕ НАСЕЛЬНІЦТВА» (Т. И. Алексеева. Антропологический состав восточно-славянских народов и проблема их происхождения. У кн.: Этногенез финно-угорских народов по данным антропологии. М., 1974, с. 74. Падкрэслена мной. — І. Л.).**

**Гэта лагічна. Раз славяне рухаліся з захаду, дык ясна, што чым далей на ўсход, тым меней іх дабіралася. Не хачу сказаць, што ў складзе расейцаў славянскі элемент адсутнічаў зусім. Але сюды прасочваліся толькі асобныя нешматлікія групы тых жа драгавічоў, радзімічаў, палянаў, северанаў, драўлянаў. Настолькі нешматлікія, што сваімі назвамі не пакінулі следу ў пісьмовых крыніцах. Яны сваёй прысутнасцю рыхтавалі глебу для славянізацыі краю. Але галоўную ролю адыграла праваслаўная царква.**

Вельмі важна адзначыць, што неславянскай была і тая тэрыторыя, дзе ўрэшце склалася расейская літаратурная мова — Масква і закол Масквы. Тут яшчэ ў 11—12 стагоддзях жыло племя **голядзь.** Даследчыкі абвясцілі яго балцкім, мне ж здаецца, што яно было фіна-ўгорскім. Але не гэта галоўнае. Важна, што голадзь не была славянскай. Таму, славянізаваўшыся, праз царкву, яна засвоіла цалкам царкоўную мову, якая стала тут **размоўнай.** Мо таму і перанеслі сваю сталіцу Маскву багабойныя ўладзіміра-суздальскія князі, што мясцовая мова была копіяй мовы Пісання? І ў далейшым пільна сачылі за яе чысцінёю, раз-пораз прымушаючы вымятаць з царкоўных кніг нацяганыя з мясцовых гаворак словы, — гэтае вымятанне філолагі называюць «другім паўднёваславянскім уплывам».

На Беларусі таксама жылі неславяне. Нам вядомыя назвы такіх неславянскіх плямёнаў, як літва, яцьвезь, лотва, латыгола і інш. Але шчыльнасць славянскага насельніцтва тут была непараўнальна вышэйшай, чым у Расеі. Таму пераважная большасць не славян славянізавалася яшчэ да ўвядзення хрысціянства, перайшоўшы на заходнеславянскія гаворкі суседзяў. Толькі літва ды яцьвезь захоўваліся і надалей. Літва была нават хрышчоная пры Ягайле ў каталіцызм. І калі б касцёл працаваў на польскай мове, то мы, хутчэй за ўсё, не мелі б яе ў сваім складзе. Але ў тыя часы рабочай мовай каталіцкіх святароў была лаціна, і літва ў асноўным не паланізавалася, а дзякуючы цеснаму суседству са славянамі Вялікага княства паволі перайшла на мову, якую сёння завём беларускай.

Не ўсе фіна-ўгры Расеі прынялі царкоўнаславянскую мову. Цэлы шэраг народаў, як мардва, марыйцы, комі, удмурты, карэлы, адбіўся ад яе наступу, захаваў сябе. Іншых заліла царкоўная славяншчына. Ад ранейшых сваіх гаворак яны захавалі толькі асобныя словы, паходжанне якіх цяпер этымолагі не могуць вызначыць.

Пераход жа на больш-менш блізкую мову, якога вымагала царква ад беларусаў ды ўкраінцаў, аказаўся складанейшым. Засвоіць болей блізкую мову, здавалася б, прасцей. Але гэта не так. Нездарма ж суіснуюць дыялекты адной і той самай мовы. Калі суседзі ўзаемна разумеюць адзін аднаго без перакладу, ім зусім неабавязкова пераходзіць на суседскую мову, каб сумовіцца. Так было і з мовай Пісання. Беларус разумеў яе, але пераходзіць на яе, каб «гаварыць з Богам», не меў патрэбы, Бог і так павінен быў яго разумець. Беларус засвойваў з царкоўнаславянскай словы, зусім непадобныя да сваіх, і карыстаўся імі, падобныя ж працягваў казаць па-свойму. Царкоўнаславянская мова засявала мясцовыя гаворкі сваім лексічным каменем, але анічога не магла зрабіць з мясцовым вымаўленнем і граматыкай. Так і цягнулася гэтае змаганне сотні гадоў, прывёўшы да таго стану нашай мовы, які маем ад часоў Дуніна-Марцінкевіча, Насовіча, Багушэвіча.

Гэтае змаганне працягваецца і сёння, ужо не з царкоўнаславянскай, а з яе наступніцай — расейскай мовай. Як раней з амбона, так цяпер па радыё ды тэлебачанні, у тэатрах ды кінатэатрах, са старонак кніг і газет, з вуснаў настаўнікаў ды прафесараў яна грыміць штодзень, ад світання да змяркання ўсюды, дзе б ні стаяў ці сядзеў, ішоў ці ехаў, працаваў ці драмаў беларус.
Але нашая мова — жыве. і веру — будзе жыць. Асабліва калі мы зразумеем нарэшце, што ў беларусаў — свая гісторыя, свой лёс, свая мова, якая прайшла цяжкі і пакутлівы, але гераічны шлях.

---

Ганарар за гэты артыкул аўтар просіць пералічыць на рахунак Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

# «РУБОН!»

## Канферэнцыя беларусаў Даўгаўпілса

Гісторыкі даводзяць, што з такім зычным клічам: «Рубон!»— ішлі нашы продкі ў наступ на крыжакоў пры Грунвальдзе. Рубонам у даўнасці называлася Дзвіна. І альманах пад такім назовам выходзіў калісьці ў Вільні для падпісчыкаў з Віцебшчыны. Сам я з Прыдзвіння, з той часткі Беларусі-Балткрывіі, якая суседнічае з латгальскімі землямі, даўно вывучаю латышска-беларускія стасункі. Таму не мог адмовіцца ад камандзіроўкі ў Даўгаўпілс на канферэнцыю тамтэйшых маіх суайчыннікаў.

— Гэта ўжо другая спроба арганізавацца,— гаварыла педагог Вольга Паўловіч.— Калісьці сабраліся, пагаварылі, але планы нашы так і засталіся на паперы...

У вялікай зале старажытнага будынка на самым беразе Даўгавы толькі што адслужылі свой малебен евангелісты. Іх святар, убачыўшы, як мы ладкуем бел-чырвона-белы сцяг, запытаў: «Беларусы?» На развітанне пажадаў божага блаславення.

Толькі што паўнюткая ад вернікаў зала прытуліла цяпер чародку беларусаў. Старшыня Балта-славянскага аб'яднання ў Даўгаўпілсе Людміла Каралёва адразу ж пасля нашага знаёмства пачала гаварыць пра тое, як гэта важна арганізавацца беларусам. Колькасна яны ў горадзе нароўні з латышамі: па 11 тысяч. Многія займелі добрыя пасады, людзі ёсць багатыя, уплывовыя. Але кожны — сам па сабе. А ёсць жа і нямоглыя, састарэлыя... Тут бы аб'яднацца і трымацца, як пальцы ў кулаку...

Дзіўна, але і прадстаўнік народнага фронту Латвіі, выступіўшы на канферэнцыі, упрошваў беларусаў самавызначыцца, утварыць свой хаўрус, у сваім нацыянальным супольніцтве весці культурна-асветную работу, падымаць прэстыж сваёй нацыянальнасці. Я пахаладзеў ад слоў прамоўцы, калі ён згадаў першыя этапы змагання Латвіі за незалежнасць. Тады праціўнікамі працэсу сталі шматлікія мае суайчыннікі. Многія з іх пачалі збіраць подпісы пад заявай аб далучэнні Даўгаўпілскага краю да Віцебскай вобласці.

Так, незайздросным аказаўся лёс «новых» беларусаў у Латвіі. Пры калгасным прыгоне, я сам гэтаму сведка, былі створаны невыносныя ўмовы існавання, і сотні маіх землякоў пакідалі родныя котлішчы і скіроўваліся па цячэнні Дзвіны і па цячэнні лёсу. А колькі машын было напакавана нашымі дзяўчаткамі, якія, спакушаныя інтэрнатам і такою-сякою зарплатаю на прадпрыемствах саюзнага падпарадкавання, адпраўляліся зноў жа ў Латвію. Толькі ўжо новыя гандляры рабсілай не плацілі столькі золата, колькі важыла каса маладой паланянкі адміністратыўна - камандна - зніштажальнай эканомікі. І як тут папракаць атлумленых суайчыннікаў, якія засялілі ў Даўгаўпілсе мікраараён пад жартоўнай назвай «Шаркоўшчына», што яны пражылі дзесяткі бяздумных «русскоязычных» гадоў?

Нацыянальнае супрацьстаянне, непрымірымасць, непавага да самога сябе і суседа — гэта не амбіцыі сённяшняга пераломнага дня. Гэта вынік палітыкі вывядзення новай пароды — дыстылізаванага савецкага чалавека.

— У даваеннай Латвіі,— сказала на канферэнцыі былая выпускніца Дзвінскай беларускай дзяржаўнай гімназіі Яўгенія Мікалаеўна Васільева,— проста не магло ўзнікнуць пытанне аб валоданні латышскай мовай. Напрыклад, такі прадмет, як геаграфія Латвіі, у нас выкладаўся па-латышску. Мова ў нас ўваходзіла паступова: праз два-тры месяцы мы ўжо разумелі сэнс, а трохі пазней маглі ўжо свабодна размаўляць па-латышску. І не дзіва, што калі быў задаўлены беларускі рух, усе нашы выпускнікі сталі працаваць у латышскіх школах.

Адна з асаблівасцяў беларускай нацыянальнай меншасці ў Латвіі тая, што крывы-беларусы спрадвеку тут не «мігранты», не «акупанты», не «каланісты», а карэнныя жыхары. Паводле перапісу 1897 года іх было (у межах сучаснай Латвіі) — каля 70 тысяч. У 1920 годзе частку беларускамоўных паветаў Віцебскай губерні ленінскі ўрад Расіі перадаў Латвіі. На шчасце, там у тагачаснай дэмакратычнай дзяржаве змаглі праявіць сябе такія беларускія дзеячы, як Сяргей Сахараў, Уладзімір Пігулеўскі, Кастусь Езавітаў, Іван Краскоўскі... 25 сакавіка 1921 года ў Дзвінску было закладзена беларускае культурна-асветнае таварыства «Бацькаўшчына». Сябры таварыства пры дапамозе Яніса Райніса дабіліся адкрыцця пры Міністэрстве асветы Беларускага аддзела, які пачаў фінансаваць утвораныя беларускія школы, а пазней і гімназіі.

Будучы ў Даўгаўпілсе, я праходзіў каля дома № 16 па вуліцы Варшаўскай, дзе з верасня 1922 года дзейнічала беларуская дзяржаўная гімназія. Я глядзеў на прыгожы трохпавярховы дом (зараз — жылы), з якім паядналі свой лёс Яніс Райніс, Баляслаў Брэжга, Ігнат Дварчанін, Максім Гарэцкі, Антон Луцкевіч, Пауліна Мядзёлка... Гімназія выявіла, узгадавала таленты многіх дачок і сыноў беларускіх вёсак латвійскага Наддзвіння: паэтаў Пятра Сакала (Масальскага), Эдварда Вайвадзіша, Валянціны Казлоўскай, Міколы Талеркі, опернай спявачкі Надзеі Мікалаевай-Комісар, празаікаў Веры Вайцюлевіч, Віктара Вальтара, мастака Пятра Мі938рановіча, рэжысёра Язэпа Камаржынскага... Пра творчую спадчыну некаторых з іх я ўжо распавядаў у нашай прэсе. Беларускі рух заглух у Латвіі адразу ж пасля вайны. Прыйшлі «нашы»— і «органы» распачалі неміласэрнае праследаванне латвійскіх беларусаў, настудзіўшы жылы страхам аж да апошняга іх уздыхання.

На згаданай канферэнцыі ў Даўгаўпілсе я паказваў фотаздымкі, а таксама кнігі, календары, якія выдаваліся беларусамі ў даваеннай Латвіі. На адным з фотаздымкаў 20-х гадоў удзельнік канферэнцыі Уладзімір Станіслававіч Якубоўскі між маладых натхнёных аблічч аў настаўнікаў пазнаў сябе. «А што, у вас няма такога здымка?»— пытаюся ў пасівелага чалавека. «Усё было забрана, падчыстую».

Ведаю, што тыя, у каго выпадкова захаваліся падручнікі, газеты, здымкі з даваенных часоў, самі іх палілі, каб не «загрымець». Беларусы ў Латвіі былі ўвесь час пад «колпаком» страху. Вось чаму да сённяшняга дня жывое пакаленне карэнных беларусаў мала кантактуе з новымі пасяленцамі. Няма «дыфузіі», няма адзінства...

На канферэнцыі выступалі прадстаўнікі польскага, літоўскага, украінскага асяродкаў, зычылі сваім сябрам-суседзям усялякіх поспехаў. Навуковы супрацоўнік Даўгаўпілскага краязнаўчага музея Арнольд Гулбэ ў сваім рэфераце пералічыў усе повязі латышоў і балтрэваў падчас іх суіснавання на берагах Дзвіны-Даўгавы- Рубона. Заставалася маім суайчыннікам узняцца і паўтарыць кліч Грунвальда, каб ісці ў наступ ужо не на крыжака, а на сваю сарамяжнасць, няўпэўненасць, празмерную абачлівасць.

У рэшце рэшт абралі раду, куды ўвайшлі П. Коўзель, С. Валодзька, В. Паўловіч, В. Ярашэвіч, Т. Бучаль, С. Базыльчык. А вось што хацела б афіцыйна ўтварыць канферэнцыя — суполку, клуб, зямляцтва, таварыства, самастойнае аб'яднанне ці пад страхой Балта-славянскага дома,— я так і не дазнаўся ў той вечар. Найбольш ініцыятыўная з рады В. Паўловіч на развітанне абнадзеіла: «Нешта ж будзе...»

А мая дарога пайшла далей полацкім шляхам — да рыгва (дэльты) Дзвіны-Даўгавы- Рубона, дзе на беразе Варажскага мора стаіць Рыга і дзе ўжо дзейнічаюць Латвійскае таварыства беларускай культуры «Сьвітанак», беларуская мастацкая суполка Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, суполка ТБМ імя Ф. Скарыны, фальклорны ансамбль «Надзея»... Як бачым, ёсць беларускія згуртаванні ў Латвіі, але пакуль што няма беларускага руху. Амбіцыі, прэтэнзіі, дробязныя крыўды, нерашучасць, абыякавасць і ўсё астатняе не спрыяюць кансалідацыі нашых суайчыннікаў. А гэта толькі паглыбляе іх безабароннасць у крутавароце падзей. Калісьці беларуская нацыянальная меншасць магла выставіць трох дэпутатаў у Сейм, ды не здолела выбраць. Усіх іх замяняў адзін — Ян Райніс. Сёння такога абаронцы — няма. І калі сам Менск не будзе клапаціцца аб сваёй дыяспары, то ёй наканавана (прынамсі ў Латвіі) жыццё незайздроснае. Дзіўна, але латышы— ні пры Райнісе, ні сёння — гэтага не хочуць. То што застаецца рабіць беларусам, якія ў Латвіі аказаліся «акружаны» з усіх бакоў нацыянальна свядомымі кагортамі? Першае выйсце ў кожнага з іх — гэта вяртанне да самога сябе, каб потым стаць упобачкі шчаслівейшых суседзяў.

**Сяргей ПАНІЗНІК.**




Сцэна са спектакля паводле п'есы Каруся Каганца «Модны шляхцюк».



BALTKRIEVU TAUTAS TEATRIS

Apliecība Nr. 1.

Šis apliecības uzrādītājs Jāzeps Komaržinskis nodarbināts teatrī kā aktieris - direktors

Teatra direktors:

Derīgs līdz 15 augusta 1931 g.



БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ТЭАТР.

Пасьведчаньне № 1

Гэтым сьведчыцца што Язэп Камаржынскі

працуе у тэатры як артыста

Дырэктар Тэатра:

Годна да 15 жніўня 1931 г.

Пасведчанне Я. Камаржынскага, артыста і рэжысёра Беларускага народнага тэатра ў Латвіі.

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

### Быць Беларуска-літоўскай сябрыне

Сёння ў зале бібліятэкі імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі праходзіць устаноўчы сход Сябрыны літоўскай культуры пры Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Францішка Скарыны. Прадстаўнікі Летувы, беларускія летувісы, дзеячы беларускай навукі і культуры ставяць мэтай устанаўленне творчых кантактаў з Летувой, правядзенне сумесных мерапрыемстваў. Як вядома, гэта будзе чарговае нацыянальнае згуртаванне ў Беларусі. Раней створаны такія згуртаванні палякаў, расейцаў, украінцаў, татараў, яўрэяў...

### Дзеці глядзяць на свет

Як вядома, Беларускі дзіцячы фонд, Міністэрства народнай адукацыі Рэспублікі Беларусь, Міністэрства культуры рэспублікі, Рэспубліканскі цэнтр эстэтычнага выхавання дзяцей, малое прадпрыемства «Піруэт» сумесна з вядомай канадскай спявачкай Леслі Шанду і гітарыстам Джонам Горханам праводзяць конкурс малюнкаў беларускіх і канадскіх дзяцей «Свет вачыма дзяцей». Лепшыя работы нашых дзетак — па ўмовах конкурсу ўдзельнікі яго могуць мець узрост ад пяці да пятнаццаці гадоў— прадстаўлены на выстаўцы ў рэспубліканскім Палацы піянераў і школьнікаў.

### «Акно» інвалідаў

У Доме літаратара прайшла прэзентацыя новага літаратурна - мастацкага часопіса «Акно», створанага пры Інвацэнтры. Пра часопіс расказалі яго галоўны рэдактар Анатоль Чаркасаў, пісьменнік Уладзімір Шыцік, журналіст Рыгор Галіцкі, начальнік спецыяльнага цэнтра Беларускага таварыства інвалідаў Анатоль Дрыга, цырэктар БЕЛТА Якаў Аляксейчык і іншыя.

Выступілі аўтары першага нумара «Акна» бард Уладзімір Варшанін, спявачка Вольга Патрый, сцэнарыст дакументальнай кінастужкі «Скрозь буры, дождж і мары» Павел Магілін, свае вершы прачытала Эмілія Пасынкава. Блаславіў часопіс айцец Ігар.

На вечары адзначана адначасова гадавіна літаратурнай студыі «Крыніца», з якой і нарадзіўся часопіс. Яе кіраўнік Анатоль Майсееў паведаміў аб зробленым, расказаў аб падрыхтоўцы да выдання зборнікаў «Фантастыка, дэтэктыў і прыгоды», кніг казак і паэзіі.

Уладзімір Шыцік уручыў граматы Саюза пісьменнікаў Беларусі Валянціне Коласавай і Паўлу Магіліну.

**П. ГАРДЗІЕНКА.**



Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Друкарня «Беларускі Дом друку».

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ—33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ—33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА— 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.



Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12